# Лідзкі Летапісец

*Народ, які ня ведае свайго мінулага, ня мае будучыні*





Краязнаўчы, гісторыка-літаратурны часопіс

**№ 1** **ВЕРАСЕНЬ** **1997**


## У НУМАРЫ:

## Шаноўны чытач!

Перад табою першы нумар новага выданьня. Перагарні яго бегла — і ты ўбачыш у большасьці сваёй тут краязнаўчыя і гістарычныя матэрыялы. Так, перад табой краязнаўчы, гісторыка-літаратурны часопіс. Лідзкі часопіс. У ім ты знойдзеш матэрыялы, якія датычацца далёкай і блізкай гісторыі Ліды і Лідзкага краю. Мы не ўстанавілі нейкіх межаў гэтага краю, і, калі ў нас зьявяцца матэрыялы пра Шчучын, Іўе ці Воранава, то гэта заканамерна, калі пра больш далёкія месцы, то таксама цалкам магчыма. У часопісе будуць друкавацца матэрыялы на любыя гістарычныя тэмы, калі гэтыя матэрыялы напісаны жыхарамі Лідчыны, ці нашымі землякамі. У часопісе знойдзецца месца і для матэрыялаў мала зьвязаных з нашым краем, але здольных выклікаць цікавасьць лідзян. У часопісе будуць зьмяшчацца і літаратурныя творы на гістарычную тэматыку.

Перад табой, шаноўны чытач, толькі першы нумар часопіса. Не судзі яго строга. Яшчэ не сфармаваўся калектыў рэдакцыі. Яшчэ не вядомы фінансавы бок выданьня. Яшчэ няма рэдакцыйнага партфеля, адкуль можна было б выбраць лепшыя матэрыялы. Але ўсё гэта будзе. Будзе кола аўтараў, будзе розгалас у сьвеце, будзе магчымасьць павялічыць аб'ём і якасьць. Усё гэта наперадзе. Але толькі з тваёй дапамогай, толькі тады, калі ты захочаш ведаць пра свой горад і сваё навакольле хоць на крыху болей, чым зараз, калі ў табе дзесьці там у глыбіні душы жыве маленькі-маленькі гонар за Ліду, за Гарадзеншчыну, за Беларусь. Мы сваімі матэрыяламі пастараемся, каб гэты гонар вырас да сапраўднай чалавечай годнасьці.

Часопіс ня будзе мець нейкай ідэялагічнай накіраванасьці. Накіраванасьць — толькі на праўду, толькі на талент, толькі на цікавасьць.

А зараз; у добры шлях. Хай будзе табе цікава.

Мы зьвяртаемся да ўсіх,
хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі
Ліды і краю, дасылаць іх на адрас:
Ліда-2, а/с 7, або перадаваць у рэдкалегію.

**Лідзкі Летапісец**

**ЧАСОВАЯ РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

*Станіслаў Суднік*
*Валеры Сьліўкін*
*Алесь Казак*

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**

*Лідзкая рэгіянальная рада Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі*
*і*
*Згуртаваньне Лідзкае моладзі імя Гедыміна*

**АДРЭСА РЭДАКЦЫІ:**

*г. Ліда-2, а/с 7*

Наклад 499 асобнікаў

Выданьне часткова падтрымане Моладзевым Інфармацыйным Цэнтрам і Цэнтрам Выдавецкая Ініцыятыва

# Жнівень 1997 года

# Кроніка Ліды

*__14 ЖНІЎНЯ__ Лідчыну наведаў прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандар Лукашэнка*

*Прэзідэнт пабываў на досьледным заводзе "Нёман" і ў аграфірме "Мажэйкава".*



А. Лукашэнка на досьледным заводзе "Нёман"



А. Лукашэнка ў аграфірме "Мажэйкава"



Лідзкі прыёмнік-размеркавальнік

**16 ЖНІЎНЯ** Ліда стала сусьветна вядомым горадам. У лідзкі прыёмнік-разьмеркавальнік былі дастаўлены затрыманыя на беларуска-летувіскае мяжы карэспандэнты Грамадзкага Расейскага Тэтебачаньня: Анатоль Адамчук, Аляксандр Агапаў, Валеры Асташкін, Уладзімер Косьцін.

**30 ЖНІЎНЯ** ў Лідзе ўрачыста адкрыўся Дом паляка. Адрэса: Кірава-29. На ўрачыстасьці прысутнічалі: амбасадар Польшчы на Беларусі Эва Спыхальска, мэр Ліды Уладзімір Малец, віца-мэр раёна Зігмунт Чапля, консул Польшчы ў Горадні, дэлегацыі польскіх гарадоў Кашалін і Сакулка, старшыня Саюзу палякаў Беларусі Тадэвуш Гавін і шмат іншых гасьцей.



Адкрыцьцё Дома паляка

# Кроніка айкумены

## Лідзкі гістарычны каляндар

### верасень

*<u>1 верасьня 1939 года</u> пачалася другая Сусьветная вайна.*

*<u>1 верасьня 1944 года</u> першы раз адчынена Лідзкае педагагічная вучэльня. Існавала да 1956 года.*


Лідзкі індустрыяльны тэхнікум

*<u>1 верасьня 1982 года</u> другі раз адчынена Лідзкае педагагічнае вучэльня.*

*<u>1 верасьня 1955 года</u> адчынены Лідзкі індустрыяльны тэхнікум і Лідзкая музыкальная школа.*

*<u>2 верасьня 1967 года</u> парэшткі Васіля Рыбіноўскага перанесены ў брацкую магілу ў в. Дакудава.*

*<u>3 верасьня</u> — 235 гадоў са дня нараджэньня Яна Рустэма (1762 — 1835), беларускага жывапісца, рысавальшчыка, педагога.*


Алесь Адамовіч

*<u>3 верасьня</u> — 70 гадоў са дня нараджэньня Алеся Адамовіча (1927 — 1994), беларускага пісьменьніка, крытыка, літаратуразнаўца, грамадзкага дзеяча.*


Помнік Ф. Скарыне ў Лідзе

*<u>7 верасьня</u> — чацьвёрты раз сьвяткуецца Дзень беларускага пісьменства і друку.*

*<u>7 верасьня</u> — 185 гадоў са дня Барадзінскае бітвы. На баку Напалеёна змагалася 18 беларускіх палкоў, у тым ліку і Лідзкі.*



Лёгкі вершнік В. К. Л.

*<u>8 верасьня 1380 года</u> адбылася Кулікоўская бітва. Кіравалі бітваю літоўскія (беларускія)князі Андрэй Альгердавіч Полацкі, Зьміцер Альгердавіч Бранскі, Зьміцер Баброк Валынскі і Глеб Друцкі.*


Гетман К. Астрожскі

*8 верасьня — Дзень Беларускае вайсковае славы. У гэты дзень 1514 года 30-тысячнае літоўскае (беларускае) войска начале зь гетманам Канстанцінам Астрожскім разьбіла пад Воршаю 80 тысячаў маскоўцаў. Лідзкая харугва змагалася на правым фланзе пад камандаю Юрыя Радзівіла.*

*9 верасьня — 55 гадоў са дня прыняцьця (1942) Пастановы Дзяржаўнага Камітэта Абароны СССР аб стварэньні Беларускага штаба партызанскага руху.*


Мемарыяльная дошка Л. Нарбуту

*17 верасьня 1939 года Чырвоная Армія ўступіла на тэрыторыю Заходняе Беларусі. Ноччу на касьцёле піяраў ў Лідзе была замуравана мемарыяльная дошка ў гонар Людвіка Нарбута.*

*17 верасьня — 85 гадоў са дня нараджэньня Максіма Танка (сапр. Скурко Яўген Іванавіч), народнага паэта Беларусі.*

*18 верасьня 1939 года ў 16.00 у Ліду ўвайшлі часткі Чырвонай Арміі.*

*20 верасьня — 5 гадоў (1992) са дня адкрыцьця ў в. Няцеч, Лідзкага раёна, помніка жаўнерам 1 і 4 батальёнаў 77 палка пяхоты Арміі Краёвай, загінуўшым у 1941-1945 г. г.*


Руіны Лідзкага замка

*27 верасьня 1882 года на паседжаньні Лідзкай гарадской думы прынятае зьмеркаваньне пра знос сьценаў Лідзкага замка. На шчасьце зьмеркаваньне засталося ня выкананым.*

*30 верасьня — 105 гадоў са дня нараджэньня Зоські Верас (сапр. Сівіцкая Людвіка Антонаўна), беларускай пісьменьніцы.*

## *АКРАМЯ ТАГО Ў ВЕРАСЬНІ*

*1392 года* *пры в. Дакудава адбылася бітва паміж дружынамі князя Вітаўта і князя Карыбута.*

*1432 года* *Вялікі князь Сьвідрыгайла (уладар Ліды) ў выніку змовы адхілены ад улады.*

*1567 года* *войскі ВКЛ пад кіраўніцтвам Р. Сагнушкі разьбілі 9-тысячнае войска і штурмам узялі замак Улу.*

*1792 года* *пачалася інтэрвенцыя Расейскай імперыі на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітае.*

*Першы падзел Рэчы Паспалітае.*

*1897 года* *заснаваны Бунд — Усеагульны габрэйскі рабочы саюз.*

*1902 года* *створана "Польская сацыялістычная партыя на Літве".*

# кастрычнік

***3 кастрычніка** — 100 гадоў са дня нараджэньня М. Дуброўскага (1897-1983), беларускага пісьменьніка.*

***5 кастрычніка 1907 года** згарэла вёска Лясьнікі Лідзкага павету. Засталася 4 хаты. Загінула шмат жывёлы.*


Лідзкі фарны касьцёл

***7 кастрычніка 1996 года** памёр ксёнз-дэкан Лідзкі, Станіслаў Каласанты Роек.*

***15 кастрычніка** — 100 гадоў са дня нараджэньня М. Пігулеўскага (1897-1967), беларускага сьпевака.*

***15 кастрычніка** — 85 гадоў са дня выхаду (1912) ў Вільні сатырычнага часопіса на беларускае мове "Крапіва".*

***15 кастрычніка 1942 года** на хутары Філімонаўцы Лідзкага раёна створаны першы партызанскі атрад на Лідчыне "Іскра".*

***19 кастрычніка 1988 года** ўтворана рэспубліканскае гісторыка-асьветнае таварыства памяці ахвяраў сталінізму "Мартыралог Беларусі" і аргкамітэт Беларускага народнага фронту за перабудову "Адраджэньне".*

***24 кастрычніка** — 100 гадоў са дня нараджэньня Галіцкага Кузьмы Мікітавіча (г. Таганрог), Героя Савецкага Саюза (1945), генерала арміі (1955) — удзельніка абароны Ліды (1941). Памёр 14.03.1973 г.*

***25 кастрычніка** — 125 гадоў са дня нараджэньня Аляксандра Аляксандравіча Разенфэльда, беларускага фальклярыста і этнографа. Працаваў у тым ліку і на Лідчыне.*

***26 кастрычніка 1625 года** нарадзіўся Міхаіл Казімір Радзівіл — будучы Лідзкі стараста.*

***30 кастрычніка** — Дзень палітзьняволеных (Дзень памяці ўсіх ахвяраў рэпрэсіяў).*

***30 кастрычніка 1988 года** адбыўся мітынг-рэквіем "Дзяды" каля Усходніх могілак у Менску і ў Курапатах.*


Зянон Пазьняк у Курапатах

# ЗАСНАВАНЬНЕ ЛІДЫ

В. СЛІЎКІН,
кандыдат геаграфічных навук

Дзьве пачатковыя тайны захоўвае гісторыя нашага горада. Ніхто канкрэтна ня можа адказаць, чаму Ліда так названа і калі яна была заснавана. На зямным шары няма ні аднаго паселішча з такой назваю. Ліда адзіная. Затое думкі наконт заснаваньня горада вагаюцца ў межах чатырох стагодзьдзяў — з X па XIV.

Дарэвалюцыйны гісторык М. Шымялевіч час зьяўленьня Ліды адносіў да вельмі глыбокага часу: "...несумненна, што паселішча гэта належыць да ліку старажытных паселішчаў ліцьвінаў і існавала ўжо ў X стагодзьдзі". Сапраўды, выбар месца пасяленьня — на зліцьці дзьвюх невялікіх рэчак (Каменка і Лідзейка) пасярод цяжкадаступных дрымучых лясоў, у моцна забалочанай мясцовасьці — характэрны для паселішчаў племені ятвягаў, якія засялялі Прынёманьне ў X—XIII стагодзьдзях. Адным з апошніх асколкаў гэтага зьнікшага племені, летапісныя напамінкі пра якое спыняюцца ў 1283 г., было Дайноўскае княства, што размяшчалася на землях Лідчыны ў XII—XIII стагоддзях. Цэнтрам яго была вёска Дайнова (Дэйнава).


Заснавальнік Ліды, Вялікі князь Гедымін

Самая старажытная з датаў зьяўленьня Ліды прыводзіцца ў Польскай Вялікай Усеагульнай Энцыклапедыі (т. 6): "Ліда залажона ок 1160 р." З'явілася гэта дата дзякуючы двухсэнсовай фразе вядомага польскага гісторыка XIX стагодзьдзя, жыхара Лідскага павета Тэадора Нарбута. Да пятага тома свайго вялікага дзевяцітомнага дасьледаваньня па гісторыі Літоўскага княства ён прыклаў невялікае, з чатырох старонак сачыненьне "Крыху з гісторыі горада Ліды", якое пачынаецца так: "То мейсца, по завоёвані і княства Дэйновскего, около року 1180 в ктурэм лежало, ест осада літэвска", што перакладаецца наступнім чынам: "Гэта месца, пасля заваёвы княства Дайноўскага, каля 1180 г. у якім размяшчалася, ёсьць паселішча літоўскае".

Неканкрэтнае па сэнсу меркаваньне з цягам часу ператварылася ў пераканаўчае аб зьяўленьні Ліды ў 1180 г. Яно падтрымліваецца сучасным літувіскімі энцыклапедыямі (LTE, т. 6 і TLE, т. 2): "Манома, кад Лида прадэя куртис XII амжия" — "Мяркуецца, што Ліда пачала стварацца ў XII стагодзьдзі".

Дата з XIII стагодзьдзя — 1242 г. — мільгае ў гісторыка-эканамічным нарысе "Ліда", выдадзеным у 1976 г. на стар. 8: "Бачыў горад ля сваіх сьценаў і татар. У 1242 г. літоўскі князь Міндоўг адбіў іх напад ля Ліды". Аўтары нарысу не паведамілі першакрыніцаў, з якіх яны ўзялі гэтыя зьвесткі, і тым самым ухілілі магчымасьць іх праверыць. Сапраўды, у 1242 г. татара-мангольскія тумены ўварваліся ў Прынёманьне. Але пад Васілішкамі ў злой сечы пацярпелі паразу, а іх важак Шайбакхан быў забіты. Поле, дзе адбылася гэтая бітва, да цяперашняга часу называецца "Шайбак-поле", вёскі з назвай Шайбакі таксама маюць нейкія адносіны да гэтага хана, па меншай меры да яго імя. Далей Васілішак татара-манголы не прайшлі, і Занямоньне ўцалела ад зьнішчэньня. Цікава, што ў карысьць заснаваньня Ліды ў XIII стагодзьдзі, чамусьці выказваецца Вялікая Савецкая Энцыклапедыя: "Ліда заснавана ў XIII стагодзьдзі.

З 1323 г. зьвязваюць пачатак будаўніцтва Лідскага замка большасьць гісторыкаў. Дату гэту першым назваў польскі гісторык XVI стагодзьдзя Мацей Стрыйкоўскі, які апублікаваў у 1582 г. у Кёнігсбергу сваю добрасумленную гістарычную працу "Кроніка Польшчы, Літвы, Жмудзі і ўсёй Русі". Бязь ценю сумненьня ўказвае гэтую ж дату Т. Нарбут: "Замак быў закладзены ў 1323 г.", спасылаецца ён пры гэтым на настаяцельскія (плябанскія) натацы, сабраныя Вінцэнтам Нарбутам, пробашчам і дэканам Лідскім у 1801-1826 гг. З некаторымі варыяцыямі гэта дата прызнаецца ўсімі энцыклапедыямі:

"У Лідзе знаходзяцца руіны замка (каля 1325 г.), узведзенага на штучным узгорку (ВСЭ, т. 14); "Лідскі замак пабудаваны ў 1323-1325 гг. пры вялікім князі літоўскім Гедыміне" (Бел. С. Э., т. 6); "Лідскі замак узведзены ў 1330-я гады" (Э. Л. і М. Б., т. 3); "Гедымін узвёў тут у 1326 г. замак" (PWN, т. 6); "1323-1328 пабудаваны каменны замак" (LTE, т. 6, TLE, т. 2); "Замак лідскі ўзвёў быццам бы (згодна са Стрыйкоўскім) каля 1323 г. Гедымін" (WEPI, т. 13).

У пачатку 30-х гадоў XIV стагоддзя у Літоўскім княстве адбылося некалькі важных падзеяў. У 1323 г. вялікі князь Гедымін перанёс сталіцу княства з Навагрудка ў Вільню. У тым жа годзе ён накіраваў папе Іаану XXII ліст, у якім выказаў гатоўнасьць прыняць хрысціянства за кошт міру з боку крыжакоў. Іаан XXII забараніў крыжакам паходы на княства і выслаў сваіх лягатаў для вывучэньня пытаньня аб хрышчэньні Літвы. Крыжакі вымушаны былі заключыць з Літвою


Лідзкі замак. Рэканструкцыя



*Руіны Лідзкага замка*

чатырохгадовае замірэньне. У 1325 г. Гедымін выдаў сваю дачку Альдону за Казіміра — сына польскага караля Уладзіслава Локетка і заключыў зь ім мір. У 1326 г. вялікакняскія паслы заключылі мір зь Вялікім Ноўгарадам. Ва ўмовах міру з заходнімі і паўночнымі суседзямі, князь Гедымін актыўна ўзводзіў абарончыя збудаваньні. На паўднёвым напрамку ад сталіцы быу закладзены Лідзкі замак, на ўсходнім — Крэўскі. Абодва замкі будаваліся па плану рыцарскіх касцёлаў. Адначасова ішло інтэнсіўнае будаўніцтва ўмацаваньняў у Вільні.

Лідскі і Крэўскі каменныя замкі павінны былі складаць другую лінію цытадэльных збудаваньняў на ўсходніх і паўднёвых рубяжах княства і аберагаць Вільню ад набегаў рускіх князёў і золатаардынскіх ханаў. На першай лініі абароны ўжо былі два магутныя замкі — Трокскі і Медніксі. У сучаснай гістарычнай літаратуры Лідзка-Крэўская абарончая лінія лічыцца ўзведзенай супраць крыжакоў. Тады навошта з супрацьлеглага ад іх боку?

Толькі Гедыміну і толькі ў пачатку 30-х гадоў патрэбны быў абарончы замак у Лідзе, праз 7-10 гадоў замак узводзіць ня трэба было б: граніцы Вялікага княства Літоўскага да гэтага часу прасунуліся далёка на поўдзень і на ўсход.

Замак быў пабудаваны хутка, напамінаюцца тэрміны ад 3 да 5 гадоў, ня ў прыклад рэстаўрацыйным прцам, якія так расцягнуліся. Па сьцвярджэньню Т. Нарбута, пры будаўніцтве "кіеўскія майстры і палонныя з Валыні выкарыстаны былі" — за два гады да пачатку работ літоўскія дружыны ажыцьцявілі вялікі паход на Валынь, Белгарад і Кіеў. А. Трусаў мяркуе, што замак будавалі паўночна-нямецкія (ганзейскія) майстры. Аб'ёмы работ вялікія: прарыты шырокі і глыбокі роў, адсыпана пляцоўка, узведзены 12-метровай вышыні сцены агульнай даўжынёй 341 метар, складзена высокая паўднёва-заходняя вежа, укладзены 23 тысячы кубаметраў валуноў, якія перад гэтым былі зьвезены з ваколіцаў, і 1,5 мільёна цэглы (разлікі Ткачова). Відавочна, што для такога аб'ёму працаў пры хуткасьці, з якой усё было зроблена, патрэбны тысячы свабодных рук — імі маглі быць толькі рукі палонных. Пры ўсім жаданьні лічыць будаўнікамі замка мясцовых жыхароў (думка Ткачова) нельга не прыняць да ўвагі іх нешматлікасьць (3-5 чалавек на квадратны кіламетр), адсутнасьць у іх навыкаў працы з вапнаю, цэглай і вялікімі валунамі. А адначасова ж узводзіўся і Крэўскі замак. Нездарма да нашых дзён у Палесьсі захаваўся праклён: "Каб ты на Крэўскі замак каменьне цягаў!" Відаць, сакавітае слова "крэўскі" замацавала яго перавагу, бо Лідзкі замак большы і ў горшых умовах разьмешчаны.

Безумоўным доказам існаваньня Ліды ў канцы 30-х гадоў XIV стагодзьдзя зьяўляецца тастамант князя Гедыміна, вядомы з "Хронікі літоўскай і жамойцкай". Там паведамляецца, што задоўга да сваёй сьмерці, якая наступіла ў 1341 г., Гедымін завяшчаў падзяліць паміж сваімі сямю сынамі Вялікае княства: "тых всех сынов за живота своего порядне поделив панствами удельными, забегаючи внутренней домовой невзгоды, абы по смерти его сынове братерской не розливали милости межи собой и не воевалися з собой о панство, але абы каждый на свое приставал уделе. А поделил их тым способом: Монтвилови старшому Керново и Слоним з волостями их назначил; Наримунтови Пинско со всеми околичностями над Припетю рекою, аж до Днепра, Олгердови Крево замок, которого ся панство ростягло аж до Барчи реки к всходу солнца и дугой, а ижь мел Олгерд границу з княжатем руским Витебским, бо понял у его дочку единачку именем Ювианию (ошибка летописца — Марию), по которой мел в посагу все князство Витебское, которого князства панство ростягалося от реки Березины аж до реки Угри в Москву; Кестутово Троки Старые зо всем князством Жомойтским, з Городном и Ковном, Упитом и Лидою, аж до Подляша при границе пруской идучие; Кориатови Новгород князство с Волковыйском и Мстибоговом, которое князство тягло до Случи реки; Любарт зас же понял был в стан малженский у Володимера князя Володимерского и Волынского, дочку мел часть с посагу на Волыню, а по смерти Володимира взял князство Володимерское все, Луцкое и Волынское; Евнутови меншому сыну, в котором ся Гедимин найлепше от всех сынов кохал, по смерти своей всю зверхность Великого князства Литовского, Русского, Жамойтского над братнею злецил и записал, и Вильно место, столицу Великого князства Литовского, з замками отдал, также Ошмянские, Волкомирские и Браславские отдал ему поветы. А так, всех сынов своих великий князь Гедимин поделил панствами". (Поўны збор рускіх летапісаў, т. 32, стар. 41. М. "Наука", 1975).

Кароткі зьмест тастаманту: Мантвілу — Кернава (зараз с. Кярнаве на поўнач ад Вільні) і Слонім з валасьцямі; Нарымунту — Пінск з усімі ваколіцамі; Альгерду — Крэўскі замак і ў спадчыну ад жонкі Віцебскае княства; Кейстуту — Старыя Трокі, Горадню, Коўна, Упіт (зараз с. Упіце на поўдзень ад Панявежыса), Ліду; Карыяту — Наваградак, Ваўкавыск, Мсцібогаў (зараз с. Мсцібава Ваўкавыскага раёна); Любарту — Валынскае і Луцкае княствы; Яўнуту — сталіцу Вільню, Ашмяны, Валкамір (Укмерге), Браслаў.

З тэкста гэтае кронікі бясспрэчна відаць, што на 1335-1338 гг. Ліда існавала як буйны феадальны цэнтар Вялікага Княства Літоўскага. У тастаманце згадваецца 15 гарадоў. Сярод іх Ліда і Крэва-замак. Калі б паселішча пры замку не

існавала, то называлі б Ліда-замак. Аж не: "Горадняй і Коўнам, Упітаю і Лідаю..." Узьнікае пытаньне — чаму ж зараз дзейная дата заснаваньня горада аднесена да 1380 года? Менавіта гэтая дата напісана на ўездах у горад, на вымпелах, на маляўнічым пано, на барэльефах у рэстарацыі "Дзітва". У 1980 годзе было ўрачыста адзначана 600-годзьдзе горада. Ліда ўзнагароджана ордэнам "Знак Пашаны", афармлены пляц імя 600-годдзя, да юбілею выпушчана паштовая каперта. Дата такім чынам была аслупавана.

Ініцыятарам прызнаць 1380 год, годам заснаваньня Ліды быў верагодна А. П. Пьянкоў, адзін з аўтараў "Гісторы Беларускай ССР", выдадзенай у Мінску ў 1961 г. Дата была паўторана аўтарамі "Гісторыі БССР", т. 1, стар. 88 (Мінск, 1972), затым беларускімі энцыклапедыямі — БелСЭ і ЭЛіМБ. Спасылаюцца пры гэтым на "Сьпіс рускіх гарадоў", складзены ў прамежку паміж 1387 і 1406 гг. Дзіўна, чаму ж тады выбраны 1380 г., а не 1387 ці нават 1406-ы?

Беларускія энцыклапедыі, прызнаючы, што замак быў пабудаваны ў пачатку XIV стагоддзя, супярэчлівасьць ухіляюць адрывам замка ад горада: спачатку, маўляў, быў пабудаваны замак, а затым каля яго вырас горад. На мой погляд, гэта тое самае, што падзяліць Крэмль і Маскву. Калі паселішча не было, то дзе тады жылі будаўнікі замка — у Дайнаве? А на будоўлю іх, трэба думаць, рэйсавымі коньмі дастаўлялі. Пасьля ўзвядзеньня не магло ж вялікае збудаваньне з больш чым 100 байніцамі, вялікай вежай у чатыры паверхі, унутранымі драўлянымі пабудовамі ня мець значнае вайсковае залогі. Такіх фартэцыяў усяго сем за ўсю гісторыю княства і было. А гарнізон паіць-карміць трэба: жыта сеяць, жаць, малаціць, мёд зьбіраць, варыць, жывёлу пасьвіць, паляваньне весьці, паліва нарыхтоўваць.

Дзіўны нюанс нашай гарадской гісторыі — замак ужо быў, залога ў ім сядзела, а паселішча яшчэ 57 гадоў адсутнічала. Дарэчы, горад — слова вытворнае ад гарадзішча, якое ад селішча адрозніваецца наяўнасьцю агароджы. Са зьяўленьнем сьценаў крэпасьці, Ліда аўтаматычна станавілася горадам, бо ў ей зьявілася агароджа.

Паспрабуем разабрацца, чым жа кіраваліся беларускія гісторыкі, калі назначалі нам годам нараджэньня 1380 г., бо не маглі ж яны ня ведаць усе гэтыя факты і довады.

Задача аблягчаецца тым, што ў 1972 г. кандыдат гістарычных навук А. П. Грыцкевіч апублікаваў артыкул "Калі заснавана Ліда?", дзе яго меркаваньні па гэтаму пытаньню былі выкладзены.

Факт будаўніцтва замка ў 1323 г. не адмаўляецца. Пад сумненьне пастаўлены факт наяўнасьці горада. А. П. Грыцкевіч прызнае, што па тастаманту князь Кейстут павінен быў атрымаць Ліду, аднак: а) пры пазьнейшых пералічэньнях Кейстутавых уладаньняў Ліда не ўпамінаецца; б) у сярэдзіне XIV стагодьдзя ні адзін з летапісаў пра Ліду не ўспамінае; в) археалагічныя раскопкі старажытную Ліду не знайшлі. "Таму ад даты 1323 трэба, відаць, адмовіцца". Зноў у летапісах Ліда зьявілася ў сувязі зь сямейнаю спрэчкай Вялікага князя Літоўскага Ягайлы са сваім дзядзькам князем Кейстутам, у канцы 70-х пачатку 80-х гадоў XIV стагодзьдзя. Дзядзька пазбавіў свайго пляменьніка вялікакняскага пасаду на дзевяць месяцаў, за што і быў задушаны у 85-гадовым узросьце, на шчасьце, ня ў Лідскім, а ў Крэўскім замку. Паколькі пра Ліду да гэтага часу не ўспаміналі, то яе як бы і не было — такі асноўны довад артыкула. "Мяркуем, няма сурьёзных падставаў пераглядаць дату заснаваньня Ліды (1380)" — заканчвае сваё даследаваньне А. П. Грыцкевіч, пачынаючы яго фразай: "Датаю заснаваньня таго ці іншага горада звычайна прынята лічыць першую дакументальную, найчасцей летапісную згадку аб ім". Зь цікавымі навуковымі парадоксамі іншы раз даводзіцца сустракацца, калі факты за валасы цягнуць пад ідэю. Замак ёсьць, летапісны ўспамін ёсьць, а горада ўсё роўна як бы няма.

Рана ці позна, але дату заснаваньня нашага горада давядзецца аднесьці глыбей — да 1323 г. Гэта відавочна. Лепш зараз, калі вяртаюць старажытным гарадам іх назвы гербы, калі сярэдневяковая гісторыя пачынае выходзіць з-пад прэсу ідэялёгіі і палітыкі, і сьмела ставяцца пад сумненьне памылкі, часам вымушаныя, маючых ступені вучоных. 1323 г. — гэта год першых летапісных успамінаў Варшавы, Вільні і крэпасці Арэшак на Няве. У іх шэраг мае поўнае права стаць і Ліда.

У энцыклапедычным даведніку "Беларусь", выдадзеным у 1995 годзе, пункт гледжаньня пра больш раньняе існаваньне Ліды перамог: "У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца паміж 1323 і 1328. У 1330-я г. пабудаваны Лідзкі замак. Л. Непасрэдна належала вялікім князям Гедзіміну, Кейстуту, Альгерду, Ягайлу, Вітаўту". Стар. 425.

Ліда — слова балцкае. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова глянуць у сёмы том "Летовус калбас жодинас" (Вільнюс, 1966), дзе на стар. 401 ёсць тры варыянты тлумачэння гэтаму слову:

1. Вырубка, участак, раскарчаваны ад лесу.
2. Провады, якія суправаджаюць памёршага.
3. Завяршэнне сапраўднай уніі, адзінства, яднаньне.

На кожны з трох варыянтаў можна прыдумаць легенду, такую цікавую і рэальную, як зараз існуючая, якая звязвае назву горада з жаночым імем Лідзія. Аднак я павінен расчараваць прыхільнікаў гэтае легенды — імя Ліда ў той час не ўжывалася, гістарычная асоба з такім імём невядома, і навогул у феадальную эпоху жаночыя імёны у назвах паселішчаў — зьява непраўдападобная: хапала вартых мужчынаў.

Найбольш прымальны варыянт — вырубка, участак, раскарчаваны ад лесу. У беларускае мове ёсьць аналагічнае слова — ляда, якое можна разумець двояка: а) як дзялянка высечанага лесу, кустарніку, высечка; б) месца у лесе, расчышчанае пад пасеў ці пад сенакос. У беларускае тапаніміцы нямала паселішчаў, якія нарадзіліся ад слова ляда: Лядск, Лядовічы, Каменная Ляда, Ляды — адпаведна ў Іванаўскім, Мазырскім, Шчучынскім і Дубровенскім раёнах.

Акрамя таго, у летувіскае мове ёсьць словы, якія рэальна маглі паслужыць асновай для назвы нашага горада, такія, як: лідзімас — плаўка, плаўленьне; лідзініс — сплаў; лідзіс, лідзека — шчупак.

Асабліва добра чуецца у гэтым сэнсе апошняе слова — лідзека — Лідзейка, Лідзека, тым больш, што гідронімы — назвы рэк, ручаёў і азёраў — зьяўляліся заўсёды раней, чым назвы паселішчаў. Так што мы, лідзяне, жыхары, хутчэй за ўсё, лясной вырубкі на ўзьбярэжжы шчупаковай ракі. Наяўнасьць магчымых варыянтаў дазваляе прымаць любую гіпотэзу і з роўным правам на посьпех адстойваць яе. Тэма гэта з тых, якія вечна невырашальныя, можна толькі меркаваць, што ўбачыў першапраходца ці першапасяленец, здагадваўся аб прычыне, якая яго падштурхнула на выбар назвы для той ці іншае мясцовасьці.

**КОЛЬКІ Ж ГОД ВОРАНАВУ?**

# Італьянцы на Гарадзеншчыне

**А. КУЛЕШ**

Гэта не дэтэктыўная гісторыя і ня новы сцэнары да чарговай кінакамедыі, а гістарычны факт, які пачаўся ў пачатку XVI века і працягваўся больш за два стагодзьдзі.

У 1517 годзе памерла першая жонка Вялікага князя ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта Старога. Князь не вельм спяшаўся да паўторнай жанідзьбы. Затое прыдворная чэлядзь разьвіла вельм бурную дзейнасьць у гэтым кірунку. Аднак ініцыятыву з іх рук выхапіў рымскі і германскі імператар Максымільян I. Ён здолеў сасватаць Жыгімонту італьянскую дзевятнаццацігадовую, як тады сьцвярджалі, князёўну Бону з роду Сфорцаў пляменьніцу сваёй жонкі. На самай справе Бона мела тады 23 гады, але Жыгімонт быў яшчэ старэйшы... на 27 гадоў.

Бацька Боны, герцаг міланскі Джыан Гамаццо Сфорца, быў паходжаньнем зь сярэдняга саслоўя. Тым ня менш даў дачцы добрую адукацыю і сьвецк выхаваньне. Яна прайшла нядрэнн палітычную школу, мела дыпляматычную падрыхтоўку. Увогуле, была годна насіць імя князёўны.

Фармальна шлюб адбыўся 6 сьнежня 1517 года. Урачыстасьць прыняцьця шлюбу правёў ксёндз Ян Канарскі, біскуп кракаўскі, у замку Кастэль Капуано. Кароль Жыгімонт пры гэ' прысутнічаў. Яго "прадстаў пасланьнік Станіслаў Вастрагр даверанaя асоба караля. Ап выдзяляўся сваім красамоўствам і вельмі багатым убраньнем, чым зьдзівіў н толькі італьянцаў, але і прысутнь прадстаўнікоў зь Германіі. Яго кляйноты толькі на капялюшы каштавалі пяцьдзесят тысячаў дукатаў.

Сустрэча маладажонаў адбылася 18 красавіка 1518 года. А роўна праз дзевяць месяцаў, 18 студзеня 1519 года , у іх нарадзілася дачка, якую наз Ізабэлай.

Будучы па натуры жанчынай дзейнай, валявой і мэтанакіраванай, Бона адразу ўзялася за справу, і кароль ёй у гэтым не перашкаджаў.

У 1518 годзе яна запрашае ў Польшчу Яна Сцыпіёна дэ Кампо. У Польшчы Ян жэніцца на Тарэсе з роду Хлябіцкіх, зь якой меў адзінага сына Юзафа. Ажаніўшы яго на Вярэне Фірлей з Дамбравіц бацькі падарылі маладой сям'і маёнтак Балотна каля цяперашняга Воранава. Назва Балотна гучала непрыемна, таму заснаванае побач мястэчка, я таксама звалася Балотна, перайменавалі ў гонар маладой гаспадыні Вяр Сцыпіён у Вэрэнова. Да 1939 года так і пісалася — Вэрэнова. Зараз гэтая назва трансфар-міравалася ў Воранава.

Уплывовая дзейнасьць Сцыпіёнаў не абмяжоўвалася ўладаньнямі каля Воранава, а распаўсюджвалася на яго навакольле.

На працягу ўсяго XVIII стагодзьдзя чатыры пакаленьні Сцыпіёнаў нязьменна былі старостамі Ліды. У іх уладаньнях была невялікая эканомія, якая складалася зь Ліды, плошчаў і вінных крамаў у ёй а, таксама, Борак, Зарэчча і Астроўлі. Вёскі Гарні, Цыбары, Кульбакі і Пурсьці складалі асноўную маёмасьць.

У цэнтры горада, пры былым рынку і царкве сьвятога Мікалая, у пачатку XVIII стагодзьдзя Сцыпіёны валодалі вялікім пляцам, які прылягала з аднаго боку да рынку і абмяжоўваўся з дзьвух бакоў вуліцамі Камерцыйнай (зараз яе няма) і Пераца. Ззаду прымыкала да самай ракі Лідзея. Быў тут таксама заезджы дом, дзе спыняліся Сцыпіёны, калі наведвалі ў Ліду. Побач з рынкам, на вуліцы Віленскай стаяла карчма, якая ў час пажару ў 1840 годзе згарэла.

Перад самым пачаткам другой сусьветнай вайны ўвесь гэты абшар быў цалк забудаваны.

Жылі ж Сцыпіёны ў сваім маёнтку ў Шчучыне, а лідскую эканомію аддавалі ў арэнду сваім падстаростам.

У Шчучыне ў 1742 годзе ж смаленскага каштэляна Сцыпіёна пасяляе канвент сясьцёр міласэрнасьці. У 1753 годзе Т. Сцыпіён пабудавала для іх дом, у якім размясьціла шпіталь і прыёмны пакой для хворых. У канцы XVIII стагоддзя, напярэдадні падзелу Рэчы Паспалітай, пачалася будова касьцёла святой Тарэсы, якая была завершана ў 1827 годзе, пасля таго, як Сцыпіёны пакінулі Шчучын.

Станіслаў Суднік

# Кулікоўская Бітва

## (Погляд з Чырвонай Горкі)

ЗСЗ

***8 верасьня беларусы сьвяткуюць Дзень беларускай вайсковай славы ў гонар перамогі беларускіх войскаў пад Воршай. Але за 134 гады да гэтага 8 верасьня 1380 года адбылася іншая бітва, якая нікольні не адымае, а наадварот, дадае славы беларускаму войску і вайсковаму майстэрству нашых прашчураў. Гэта Кулікоўская бітва. Чытач адразу можа запярэчыць, а якія адносіны маюць беларусы да гэтай бітвы? А такія, што яны проста вырашылі яе зыход.***

***Літоўскія (беларускія) князі, унукі Гедыміна Андрэй Альгердавіч Полацкі і Зьміцер Альгердавіч Бранскі, праўнук Гедыміна Зьміцер Міхайлавіч Баброк Валынскі, князь Глеб Друцкі фактычна кіравалі гэтай бітвай. Пасьля таго, як Зьміцер Маскоўскі ўступіў у бой і страціў кіраўніцтва войскам, трое Гедымінавічаў узялі ўсё на сябе і пасьпяхова завяршылі бітву.***

Мамай сядзіць на Чырвонай Горцы. Перад ім поле будучай вялікай бітвы. Ён яшчэ ня ведае, што гэтая бітва будзе апошняя для яго, але, што яна будзе вялікая, ужо бачыць.

Пад горкай яго войска. Усе восем туменаў, якія ўдалося набраць з Дзікага Поля, з Каўказу, з Волгі. Сотні разнамоўных, разнавялікіх, рознаўзброеных плямёнаў, зьбітых у адно цэлае. Канглы, кіпчакі, кіргізы, уйгуры, карлыкі, аргыны, алагіны, тагусы, юсы, кучыны, харласы, кукузы, кіжоты, джалаіры, айраты, дарбеты, ангуты, татары, ханкіраты, мангыты, манголы, хатачыны, караіты, найманы, кідані, баргуты, меркіты, мінгі, кенягесы, кынгыты, мардва, ясы, чаркесы, абадзегі, адыгі, бесьлянеўцы, бжадухі, мехяшэўцы, ягарукаі, убыхі, шансугі, буртасы, аланы, армяне і шмат-шмат іншых. Ён сабраў іх усіх дзеля адной вялікай мэты. Не, не пра разгром і пакараньне Маскоўскага князя Зьміцера ідзе сёньня справа, не пра аднаўленьне даніны. Справа ідзе пра поўнае зьнішчэньне Русі і засяленьне яе стэпавымі народамі. Стэп стаў цесны. Тахтамыш захапіў Заволжа і Ніжняе Паволжа. З Туркестана чутно іржаньне коней Цімура, Літва выбіла вандроўныя плямёны з Падольля, захапіла Кіеў і выйшла да мора. У яго войску




Конны драб Вялікага Княства Літоўскага

шмат пляменаў, што аруць і сеюць. Іншыя будуць паліць лясы, будуць адсоўваць стэп. Ардынцы не баяцца зімы і сьнегу. Ён ставіць свае тумены для вялікае бітвы.

Мамаю добра відно рускае войска. Там нічога новага, усё звыклае. Нейкіх 3-4 тумены. Усё такое ж шыхтаваньне. Перадавы полк, за ім вялікі полк. Полк правай і левай рукі. Ззаду запасны полк. Мамай ня бачыць здалёк добра харугваў. Ён распазнае толькі колер. Над вялікім палком — вялікая чорная харугва, зразумела — Зьміцер і меньшыя чорныя харугвы з падлеглых яму Каломны, Рузы Мажайску, Калугі ды іншых. Мамай ведае, што няма там цьвярскіх, суздальскіх, наўгародскіх, ніжненаўгародскіх харугваў. Гэта добра. Чорныя харугвы над палком левай рукі. Там таксама даньнікі Зьміцера. Над палком правай рукі чырвоная харугва. У палку, мабыць, менш паўтумена і Мамай ведае, хто там стаіць. Там старэйшы сын вялікага Альгерда, што ўшчэнт разграміў арду 18 гадоў таму на Сіняй Вадзе, Андрэй Альгердавіч, князь Полацкі, Пскоўскі, Віцебскі, Смаленскі. Мамай ведае яго і яго войска. Гэта ня войска Зьміцера, што складаецца з княжых дружынаў, гараджан і сялян узброеных чым папала: мячом, сякерай, дзідай. У Андрэя Полацкага ня проста баяры. У яго рыцары, драбы па іхняму. Драбы з ног да галавы закаваныя ў жалеза. Жалезам пакрытыя коні. У половы панцыры зь нямецкай, французскай, ангельскай зямель, знятыя ліцьвінамі з крыжакоў. У іншых панцары сваёй работы, але ня горшыя. У драбаў вялікі набор зброі. Яны амаль непаражальныя для шаблі і лука. Супраць іх трэба булаву, аркан. На шчасьце іх ня так шмат. У яго, Мамая, ёсць таксама рыцары, таксама ў жалезе. Ён наняў за вялікія грошы полк фражскай генуэзскай пяхоты. Вось ён перад сярэднімі туменамі. Яго задача зьмяць перадавы і вялікі палкі, разламаць шыхт, пусціць тумены ў звалку.

Чырвоная харугва над запасным палком. Там напэўна гэты хітры ліс Зьміцер Баброк Валынскі сваячок Зьміцера Маскоўскага. Гэта ён растаўляў палкі і тут і два гады таму на Вожы. Ён заняў лепшую пазіцыю, бліжэй да пераправы, каб, чуць што, латвей уцячы. Хітры.

Тут Мамай мыляецца. На высокім узгорку стаіць запасны полк начале са Зьміцерам Альгердавічам Бранскім, родным братам Андрэя Полацкага. Зь ім каля двух тысячаў такіх жа драбаў, як і ў Андрэя. У яго цяжкія баяры. Уцякаць ня ўмеюць. Іх задача закрыць прарыў, дзе б ён не адбыўся.

А, Зьміцер Міхайлавіч Баброк Валынскі сапраўды хітры. Ён галоўны ваявода і ён расставіў палкі, і ён выдзеліў восем тысяч конніцы ў засадны полк — шосты, нетрадыцыйны полк. І гэтага палка ня бачыць Мамай і думае, што ўся рэзерва рускіх — гэта полк пад чырвонай харугвай на ўзгорку.

Мамай бачыць яшчэ адну чырвоную харугву. Над перадавым палком. Баброк паставіў Зьміцера Альгердавіча ў перадавы полк. Значыць баіцца фражскай пяхоты.




Пешы драб Вялікага Княства Літоўскага

Значыць ўся надзея ў Баброка на ліцьвінаў.

Тут Мамай зноў мыляецца. Мы ўжо ведаем, што Зьміцер Альгердавіч камандуе запасным палком. А ў перадавым палку харугва Глеба Друцкага. Але не мыляецца Мамай, што ўся надзея і ў Баброка, і ў Зьміцера Маскоўскага на ліцьвінаў. У іх упэўнены, ім даверылі ключавыя пасты: і асобныя, і важныя. З Альгердавічамі ўжо ўсё ясна. Што робіць Глеб Друцкі менавіта ў перадавым палку і ня проста ў перадавым, а на самым перадзе. Глеб Друцкі камандуе зводнай харугвай арбалетчыкаў. У Маскве ня ведаюць такой зброі. Гэта арбалетчыкі Вялікага Княства Літоўскага з палкоў Альгердавічаў. Арбалет — страшная зброя. Паўтарамятровая стальная страла, са стальным апярэньнем прабівае трох латнікаў, такіх як генуэзцы. Ёсць ў арбалета недахоп, павольнае перанапяцьце. Цяжка зь ім супраць імклівых вершнікаў, але супраць пяхоты — самы раз.

Мае рацыю Мамай, калі думае, што ліцьвінская харугва зьявілася ў перадавым палку з-за яго пяхоты. Ды ня ведае Мамай пра арбалеты.

Мамай расставіў тумены, але не пачынае бітву. Мамай чакае. Чакае вестак. У адным пераходзе ад гэтага поля, якое рускія называюць Куліковым стаяць саюзьнікі Мамая Алег Разанскі і Ягайла Вялікі Князь Літоўскі. Хан чакае, калі саюзьнікі рушаць у бок поля.

Мамай ня ведае, што яны ня рушаць. Алег Разанскі, князь невялікага памежнага княства заціснуты паміж ардой і Масквой будзе лавіраваць да канца і ня ўступіць у бой. А Ягайла ня зможа скрануць баяроў, большасць зь якіх хадзіла з Альгер-дам на Сінюю Ваду,, біла ардынцаў на Украіне, ня зможа скрануць на дапамогу гэтым самым ардынцам. Тым больш, што на баку Зьміцера Маскоўскага б'юцца два сыны Альгерда, тым больш, што баяры Ягайлы, набраныя з усходняй паловы княства ахвотней бачылі б на вяліка-княскай пасадзе праваслаўнага Андрэя, чым паганца Ягайлу.

Мамаю дакладваюць, што Ягайла стаіць, але стаіць на адлегласьці дзьвюх гадзінаў ходу. І Мамай вырашае пачынаць.

Хітры Баброк Валынскі. Ён абапёр палкі правай і левай рукі на рэчкі Ніжні Дубяк і Смолка. Мамай ня можа звыкла пасылаць коньніцу ў абход і мусіць прымаць лабавы бой. Мамай назірае за двубоем яго батыра з рускім і дае каманду на атаку. Мамай ня можа зрабіць глыбокі абход, але ня можа і адмовіцца ад звыклай тактыкі. Таму асноўнае вытненьне наносіць па палку правай і левай рукі, атакуючы адначасова і цэнтр. Драбы Андрэя Полацкага без вялікай цяжкасьці адбілі ардынцаў і рвануліся ў пагоню, але дасьведчаны 55-гадовы “конец копия вскормлены” князь Андрэй Полацкі спыніў полк. Ён ня мог разарваць адзіны шыхт. Побач секся вялікі полк.

У цэнтры арбалетчыкі некалькімі залпамі “ў пень” выбілі генуэзскую пяхоту і адышлі пад ахову перадавога палка. Вытненьне ардынцаў было страшным.

Мамай не надта расстроіўся, калі ўбачыў, што палегла пяхота. Цэнтральныя тумены фактычна стапталі перадавы полк і ўрэзаліся ў вялікі, прабіваючыся да вяліка-




Лёгкі вершнік Вялікага Княства Літоўскага

княжацкай харугвы, да Зьміцера.

Мамай ня ведаў, што пад харугвай у вопрат-цы Зьміцера знайходзіцца ваявода Міхаіл Брэнк, і, калі харугва ўпала зразумеў, што рускія засталіся без адзінага кіраваньня. І вось тут Мамай не памыліўся. Гэта было сапраўды так. Вялікі князь Маскоўскі Зьміцер уступіў у бой у першых шэрагах вялікага палка. У добрых міланскіх дасьпехах, прыкрыты вопраткай простага баяра, Зьміцер быў ашаломлены і завалены целамі. Так ён і праляжаў да канца бітвы, не атрымаўшы пры гэтым ніводнай драпіны.

Далейшае кіраўніцтва легла на Альгердавічаў і Баброка.

Мамай хутка зразумеў бесьперсьпектыўнасьць атак на правы фланг рускіх і скіраваў тумены на сваё правае крыло. Полк левай рукі і левы край вялікага палка сьцякаючы крывёю паступова адыходзілі, загінаючы фронт. Мамай кінуў тумен у стык палкоў вялікага і левай рукі. І стык лопнуў. Пашыраючы прарыў татары хлынулі ў тыл вялікаму палку. Пачалася паніка. Зьміцер Альгердавіч зразумеў, што прыйшоў яго час. Запасны полк рынуўся ў прарыў. Цяжкія, закаваныя ў браню драбы ВКЛ на такіх жа цяжкіх конях, набіраючы хуткасьць панесьліся са сваёй горкі насустрач ардынцам. Прарваўшыяся ардынцы былі зьмяты, а прарыў закрыты.

Усё. Мамай бачыць, у рускіх рэзерваў больш няма. Полк левай рукі сьцякае крывёй. Вялікі полк трымаецца з апошніх сіл. І Мамай кідае на сваё правае крыло апошні тумен. Полк левай рукі не вытрымлівае вытненьня і арда хлынула ў абход яго з заходам у тыл усяму рускаму войску. Перамога. Але раптам на полі пачынае тварыцца нешта незразумелае. Маса рускай коньніцы, ніяк не меньш за тумен выцяла ў сьпіну прарваўшайся ардзе. Пад чырвонай харугвай ВКЛ і чорнай харугвай Русі зь лесу выляцеў засадны полк Зьміцера Баброк Валынскага і Уладзіміра Серпухаўскага. Насус-трач яму расьсякаючы арду на дзьве часткі рвануўся полк Зьміцера Альгердавіча. А справа кінуў у атаку сваіх жалезных драбаў Андрэй Полацкі.

Далей глядзець Мамай ня стаў.

З князёў ВКЛ, што ўдзельнічалі ў Кулікоўскай бітве пасьля яе ў летапісах больш ня згадваецца Глеб Друцкі. Відавочна, ён застаўся на полі разам зь передавым палком.

Князь Андрэй Альгердавіч Полацкі і Зьміцер Альгердавіч Бранскі злажылі свае буйныя галавы ў адзін дзень12 жніўня 1399 года ў бітве з ардой славутага Цімура на рацэ Ворксле, што на поўдні Украіны.




Лёгкі баяр Вялікага Княства Літоўскага

*Дапытлівы лідзкі чытач можа ўсё з запытаць, а пры чым тут Ліда. Лідзкая харугва была ў складзе войска Ягайлы і стаяла за 20 кіламетраў ад Кулікоўага поля. Кажуць, што яна таксама не хацела ісьці на дапамогу Мамаю. Кажуць!*

*Кажуць, што Ягайла ня проста пайшоў з Кулікоўага поля, а ўлучыўшы зручны момант адбіў у Зьміцера Маскоўскага палову абозу з трафеямі. Кажуць!*

*Уся гісторыя складаецца з праўды і легендаў. Праўду пра Кулікоўскую бітву ты, шаноўны чытач, пачуў. Пачуеш і легенды.*

**НАШЫ ЗЕМЛЯКІ**

# Земавіт Фядэцкі

## “На Беларусі мне найлепей...”

А. ЖАЛКОЎСКІ

***На дварэ стаяў травеньскі вечар 1996 года. Мар'ян Баяровіч, дырэктар Лідзкай музычнай вучэльні, і аўтар гэтых радкоў пад'ехалі да мясцовага аўтавакзала, каб сустрэць жаданага госьця з Варшавы. Не пасьпеў я выйсьці з “рафіка”, як убачыў каля бліжэйшай ад нас легкавушкі лідзяніна Івана Пелясу з жонкаю. Побач, таксама каля машыны, знаходзілася яшчэ адна пара сталых людзей. Гэта былі Марыя і Лявон Жамойціны. І першыя, і другія, аказваецца, сабраліся спаткаць таго ж чалавека, што і мы, — Земавіта Фядэцкага. Прытым чакалі яны варшавяка з абеду. Лёня дазнаўся аб прыезьдзе апошняга ў Ліду, размаўляючы па тэлефоне з братам Янкам, актывістам Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Варшаве. Толькі ня ведаў, на жаль, дакладнага часу, калі, якім рэйсам прыбудзе стары добры знаёмы. Таму і давялося так доўга чакаць і хваляваца.***

***Ды радасьць спатканьня, якое доўжылася чатыры дні, так узнагародзіла сяброў, што тое чаканьне адразу ж і забылася. І тады, у час памятных сустрэчаў, я зразумеў, чаму Пелясы і Жамойціны без ніякай просьбы і падказкі цярпліва, з сяброўскім сэрцам чакалі пана Фядэцкага на аўтавакзале, чаму гэтага чалавека так прыветна і шчыра прымалі ў Лідзе і Феліксаве, Парачанах і Скрыбаўцах, Малым Мажэйкаве і Гасцілаўцах.***



Але пара хоць коратка сказаць, хто такі Земавіт Фядэцкі. Не так даўно пра яго хутчэй за ўсе напісалі б: “Сын белапольскага памешчыка”. Так, бацька Земавіта валодаў ладным абшарам добрай зямлі на памежжы цяперашніх Лідзкага і Шчучынскага раёнаў і працаваў перад другой сусьветнай вайною ў Вільні, у Інспэкцыі працы. А нашчадак вучыўся ў віленскай гімназіі і кансэрваторыі. Рос жа Зэмак, як яго і зараз называюць сябры дзяцінства ды юнацтва, у маёнтку Лебяда каля песеннай вёскі Феліксава. Там жа праводзіў вакацыі.

І раптам вайна. Пасля перадачы саветамі Вільні і Віленскага краю літувіскім уладам старшы Фядэцкі пакаштаваў “казённага” хлеба. А з прыходам фашыстаў маці і бацька Земавіта ратавалі літувіскіх габрэяў ад смяротнай небясьпекі, перапраўляючы іх у Беларусь. У змрочныя дні акупацыі малады Зэмак знайшоў ратунак у беларускай сям'і Івана Мальца з таго ж Феліксава, дзе з хлопцам дзяліліся нават невялікім кавалачкам хлеба, дзе паніч так моцна пасябраваў з дзецьмі селяніна-гаспадара — Марыяй і Валодзем.

Пасьля выгнаньня фашыстаў з нашай зямлі Фядэцкія пераехалі ў Польшчу. А неўзабаве Земавіт стаў аташэ польскага пасольства ў Маскве і не-калькі гадоў прабыў у Бела-каменнай. Там ён пазнаёміўся і падтрымліваў добрыя адносіны з Барысам Пастарнакам, іншымі слыннымі дзеячамі рускай культуры. Там жа наш зямляк стаў займацца літаратурнай працай, пачаўшы з перакладаў. А вярнуўшыся на радзіму, звязаў сваё жыцьцё з часопісам “Твурчосьць”, у якім працуе звыш

Ziemowit Fedecki
Цёплыя вечары...
czyli co śpiewano w Feliksowie
ды халодныя ранкі...

Вокладка кнігі Земавіта Фядэцкага

40 гадоў. За гэты час памог вырасьці многім польскім паэтам.

Рускія, палякі, беларусы — многія прадстаўнікі гэтых славянскіх народаў удзячныя З. Фядэцкаму за яго літаратурную працу. Гэта пан Земавіт зрабіў першы пераклад і ажыцьцявіў першае выданьне ў сацыялістычнай Еўропе "Доктара Жывага", пераклаў з рускай на польскую мову творы С. Ясеніна, М. Цьвятаевай, Б. Акуджавы, У. Высоцкага. Ня раз зьвяртаўся З. Фядэцкі і да перакладаў беларускай паэзіі. А ў лідзян завяваў шчырую ўдзячнасьць выдадзенай у Варшаве на беларускай мове кнігай "Цёплыя вечары ... ды халодныя ранкі, czyli co spiewano w Feliksowie". Гэта зборнік беларускіх народных песень, якія запісаў Земавіт у маладым узросьце і пранёс у памяці і ў сэрцы праз усе жыцьцё.

Наш госць прымеркаваў свой прыезд у Ліду (па парадзе тутэйшых сяброў) да чарговага зьезду лідзян. Праводзілася гэта сустрэча па ініцыятыве Таварыства польскай культуры на Лідчыне, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і мемарыяльна-культурнага аб'яднаньня мясцовых габрэяў. Дык вось у рамках зьезду адбылася прэзентацыя згаданай кнігі і канцэрт-вечарына па зьмешчаных у зборніку песьнях. То была падзея! У перапоўненай зале гарадскога Палаца культуры чуліся адна за другой радасныя песьні і сумныя, і перад слухачамі ўвачавідкі паўставалі красамоўныя абразкі жыцьця мясцовага люду. Вось назвы некаторых твораў, што з натхненьнем і майстэрствам выканаў ансамбль народнай музыкі "Вярбіна" музычнага вучылішча: "Ой, ты грушка мая...", "Голуб на чарэшні...", "Не сячы дуба...", "Прывыкайце, сінія вочкі, адны начаваці...", "Ляцела зязюля...", "Гора маё, гараваненька маё..." і іншыя.

Кожная зь іх выклікала ў слухачоў шчырую ўдзячнасьць як спевакам, так і Земавіту Фядэцкаму. І тым простым сялянам, ад якіх калісьці гэтыя песьні былі запісаны. Пасьля канцэрту папрасілі сказаць колькі слоў варшаўскага госьця. "Яшчэ раз я пераканаўся, што на лідзкай зямлі самыя прыгожыя песьні і такія ж дзяўчаты, — заявіў пан Фядэцкі. І дадаў: — Калі б мне адкінуць гадоў зь пяцьдзесят, я, бадай, не вяртаўся б у Варшаву".

На другі дзень ня менш змястоўную вечарыну наладзілі шаноўнаму чалавеку самадзейныя артысты народнага ансамбля песьні і танца "Каханачка". Калектыў гэты нарадзіўся ў Феліксаве і з годнасьцю прадстаўляе мясцовую аграфірму "Мажэйкава" ў роднае Краіне і за мяжою. Дарэчы, у ансамблі побач з музычнымі інструментамі надзейна служаць артыстам рэчы хатняга ўжытку: каса, граблі, пілка, саган, малаток, пранік, лыжкі, бутэлькі і іншае. Словам, умее чараваць "Каханачка".

Ураджаньні радасныя і ня зусім спадарожнічалі Земавіту ў дні яго знаходжаньня на лідзкае зямлі. Цешыла душу і сэрца госця, што народная песьня беларусаў жыве ў горадзе і вёсцы. І расказаў ён вось аб чым. Выдадзеным песенным зборнікам сялян з Феліксава зацікавіліся у многіх краінах Эўропы. І нават у Новай Зэляндыі. А ва універсітэце Венецыі вырашылі расказаць пра нашы песьні студэнтам, якія вывучаюць мастацтва. Ды пакрыудзіў Фядэцкага адзін з Італьянскіх навукоўцаў, назваўшы фальклорныя творы "песьнямі з Атлантыды", маўляў, іх зараз пачуць немагчыма. "Я пераканаю італьянца якраз у адваротным", — сказаў Земавіт.

З несхаваным задавальненьнем сьпяваў пан Фядэцкі песьні блізкіх яму людзей у розных абставінах: у "рафіку" і легкавушцы, пры сустрэчы з сябрамі юнацтва на сельскай вуліцы і ў хаце, у час застольля. Толкі хай не зьвязвае паважаны чытач тыя сьпевы з вядомымі напоямі. Паверце, за час абеду-вячэры Земавіт не асушыў нат і адной чаркі з моцным пітвом. Пасьпявае трохі ды зноў гаворыць, пытаецца. Пра Марыю Салыгу, бацька якой да вайны знаўся з Мельхіёрам Ваньковічам, пра іншых колішніх дзяўчат і хлопцаў. То раптам прыгадае і ў вочы скажа Анюце пра іх юначыя пачуцьці-захапленьні і з мяккім гумарам папракне за тое, што і блізка не дапускала думкі аб пацалунку. А цяпер Анюта парыруе: "Сам, Зэмак, вінаваты. Ты ж даваў чытаць мне кніжкі пра дзявочы гонар, цнатлівасьць". І ўсе за сталом так міла і добра ўсміхаюцца.

У нашай кампаніі аднагодкі прыгадвалі, як

паніч вучыў сялянскіх дзяцей катацца на ровары. На сваім, вядома, бо тады сустрэць у вёсцы ровар было большай рэдкасьцю, чым зараз модную іншамарку. Не хаваў Земавіт свайго ўзрушэньня, гаворачы пра горкія наступствы меліярацыі як на нашай зямлі, так і ў Польшчы. "Не магу паверыць, што рака майго дзяцінства Лебяда такая скалечаная і брудная", — са скрухай прызнаваўся госьць. А яшчэ выказаў шкадаваньне з-за непрадуманых заяў (і таго горш — дзеяньняў) кіраўнікоў нашых дзяржаў. Праўда, не пераходзячы на персаналіі. А ўвогуле палітыкам, заўважыў суразмоўца, лепш не верыць.

Аднойчы ў маёй кватэры раздаўся міжгародні званок. Тэлефанаваў Фядэцкі. З Парыжа. Спытаў, ці атрымаў я ліст з берагоў Сены. Успомніў пра намер зноў прыехаць у нашу старонку, прывітаньні ўсім сябрам перадаць папрасіў і сказаў аб сваіх мроях выканаць задуму нябожчыцы маці пра дапамогу сялянскім дзецям. У час людскіх сустрэч я чуў ад Земавіта пра цьвёрдае жаданьне яго мамусі прадаць маёнтак у Лебядзе і адкрыць для дзетак сялян санаторый. Пляны тыя перакрэсьліла вайна. І вось у новым варыянце яны зьявіліся ў сына. Па тэлефоне варшаўскі літаратар мне заявіў, што спадзяецца атрымаць ад польскіх уладаў пэўную кампенсацыю і дапамагчы нашай дзятве.

А назаўтра прыйшоў ліст. У ім былі такія радкі: "Пасылаю Пану з Парыжа сваё польска-беларускае сэрца з найсардэчнейшымі прывітаньнямі. Да гэтага быў у Галандыі і Англіі, ды прашу паверыць, што на Беларусі мне было найлепей..."

Вось такое прызнаньне. Мяркую, шаноўны і мілы пан Фядэцкі не пакрыўдзіцца на мяне, што я прывёў гэтыя радкі зь яго парыжскага ліста. І апошняе. Я ўдзячны лёсу і 1996 году, якія зьвялі мяне з такім цудоўным чалавекам.



*Земавіт Фядэцкі ў Лідзкім Доме культуры*

В. Ампілаў
В. Сьмірноў

# У маленькім горадзе Лідзе...

*Мы пачынаем друкаваць разьдзелы кнігі В. Ампілава і В. Сьмірнова "У маленькім горадзе Лідзе..." Гэтая кніга выйшла ў 1962 годзе ў выдавецтве "Маладая гвардыя" і больш не перавыдавалася. , хоць у ёй маюць месца пэўныя недакладнасьці, сам матэрыял выклікае вялікую цікавасьць. Мы ня зьменім у ёй ні слова, але гатовы выслухаць усе заўвагі і пярэчаньні нашых чытачоў і надрукуем найбольш слушныя зь іх. Таксама мы будзем вельмі ўдзячныя, калі атрымаем біяграфіі і здымкі аўтараў. Кніга даецца ў перакладзе Станіслава Судніка.*

## Выбух

Электрастанцыя ўзьляцела ў паветра 14 сакавіка ў 2 гадзіны ночы. (1943 г., С. С.)

Горад спаў. Патрульныя, разьбіваючы ботамі падмёрзшыя лужыны, рабілі свае звычайныя начныя абходы, пільнавалі нямы каменданцкі час. У адпаведнасьці са строгім загадам гера Ханвега, гэбітс-камісара горада, ні адна жывая душа ня мела права выйсьці на вуліцу з васьмі вечара да шасьці раніцы .

...Горад быў аддзелены ад лініі фронту тысяччу кіламетраў, ён лічыўся глыбокім нямецкім тылам. Але горад не скарыўся захваўнікам.

У ім ішла вайна.

Патрульныя маўчком абходзілі цэнтральныя вуліцы. Іх цені сьлізгалі каля бялелага ў цемры прыземістага старога касьцёла, каля сьцен разбуранай гарадской цьвердзі, ля асабняка гэбітс-камісара, пад вокнамі жаўнерскага клюба, адкуль яшчэ даносіліся п'яныя песьні падгуляўшых акупантаў.

Патрульныя ішлі па вуліцы, пазвоньваючы кованымі падэшвамі па бруку. Дайшоўшы да скрыжаваньня, дзе пачыналіся патанулыя ў поўнай цемры рабочыя слабодкі, патрульныя спыняліся. Там на ўскраінах ня раз бясьследна зьнікалі ахоўнікі "новага парадку". Патрульныя трымаліся бліжэй да вялікіх асьветленых каменных дамоў, казармаў, станцыйных будынкаў.

У дзьве гадзіны ночы патрульныя, што дзяжурылі непадалёку ад чыгункі, сталі сьведкамі незвычайнага відовішча. Двухпавярховы будынак электрастанцыі раптам асьвяціўся так ярка, быццам над ім скінулі асьвятляльную ракету. Над горадам пранёсься рэзкі грамавы раскат. Жалезная, шматтонная страха станцыі прыпаднялася на языках барвовага полымя і стала развальвацца на кавалкі. Сьцены будынка, складзеныя з бутавага каменя, рухнулі, вызваляючы дарогу агню. У той жа момант паўсюль патухлі ліхтары. Над горадам пылала адна яркая паходня-электрастанцыя.

За некалькі сэкундаў начны горад ажыў. Забурчалі маторы, загойсалі па сьценах дамоў прамяні аўтамабільных фараў.

Пачалася паніка.

Да электрастанцыі зьбягаліся жаўнеры. Агонь асьвятляў медныя бляхі на цёмна-блакітных шынялях фельджандармаў, яркую жоўтую акантоўку эсэсаўскіх мундзіраў. Аточаны матацыклістамі, прыехаў на сваім "опель-капітане" Ханвег. Гэбітс-камісар быў разьюшаны. Катастрофа на адзінай у Лідзе электрастанцыі паралізавала працу ўсіх прадпрыемстваў.

Да аўтамашыны гэбітс-камісара падбег, задыхаючыся, тоўсты, барвоватвары шэф чыгуначнага вузла.

Гэбітс-камісар крыва ўсьміхнуўся, пачуўшы лепет шэфа пра выпадковую аварыю. Вельмі шмат выпадковых аварыяў адбылося за апошні час у горадзе...

Раніцой сагнаныя да развалінаў жыхары навакольных кварталаў пачалі разьбіраць цэглу, адцягваць у бакі пагнутыя таўровыя бэлькі, лісты жалеза. Праз некалькі гадзін пад абломкамі знайшлі трупы двух немцаў — інжынера Зонса і ахоўніка. Целаў качагара сямёна Паўлава і яго памочніка Роберта Сасноўскага, якія ў тую ноч дзяжурылі на станцыі знайсьці не ўдалося.

— Вам трэба шукаць Сасноўскага і Паўлава ў іншым месьце, — з насьмешкай сказаў гэбітс-камісар чыгуначнаму шэфу. — Дзе-небудзь у лясах пад Лідай. А вас, шэф, сваякі будуць шукаць дзе-небудзь бліжэй да фронту.

— Асьмелюся нагадаць геру гэбітс-камісару, што Сасноўскі быў накіраваны на электрастанцыю па вашаму пісьмоваму распараджэньню.

У той жа дзень прызначэньні шуцманаў расклеілі на сьценах і платах апісаньне прыкметаў "злачынцы" Сасноўскага. "Дваццаць пяць гадоў, рост ніжэй сярэдняга, цёмныя густыя бровы..." Праходжыя чыталі тэкст, бойка складзены нейкім з аддзела прапаганды гэбітс-камісарыята: "Гэты бандыт, узарваўшы электрастанцыю, пазбавіў вас сьвятла, цяпла і працы. Ён забіваў нямецкіх вайскоўцаў. 25 тысяч марак. 15 гектараў зямлі і 5 пудоў солі таму, хто дапаможа знайсьці злачынцу".

Відаць больш за ўсё гарадзкія ўлады, спадзяваліся на 5 пудоў солі — гэтыя словы былі выдзелены асобным шрыфтам. У Лідзе панаваў саляны голад.

Адну з такіх аб'яў шуцманы павесілі на плоце каля дома № 26 па былой вуліцы Карла Маркса, у рабочай слабодцы Ліды. Дом належаў чыгуначніку Аляксандру Сьцяпанавічу Клімко. Вечарам, незадоўга да наступленьня камендацкага часу, каля аб'явы спыніўся чалавек у новым акуратным кажушку, у жаўнерскіх нямецкіх ботах з кароткімі халявамі. Аглядзеўшыся па баках, ён адчыніў брамку дома № 26 і, прайшоўшы вішнёвым садком да крайняга акна, стукнуў тры разы. Скрыпнула засаўка. У дзьвярах паказаўся рослы, шыракаплечы хлапец.

Добры вечар, Алесь, — сказаў чалавек у кажушку, праходзячы ў цёмныя сені. — Вось вазьмі падарункі, — ён працягнуў хлопцу скрутак. — Гэта вугалёк для паравозаў, а гэта — магнітная. "Таварыш Роберт" перадаваў усім прывітаньне!

На зваротным шляху на скрыжаваньні былых вуліц Карла Маркса і Максіма Горкага чалавека ў кажушку затрымаў паліцэйскі патруль.

— Дакументы!

Чадавек спакойна дастаў з нагруднай кішэні папар-панага нямецкага кіцеля "аўсвайс" — пасьведчаньне, выдадзенае акупацыйнымі ўладамі. Чорныя пілоткі схіліліся над аркушам паперы.

"...Жукаў Пётр Васільевіч зьяўляецца прызначаным старастам вёскі Дакудава Дакудаўскай Гміны[1]".

Патрульныя казырнулі. Староста адказаў ім тым жа.

— Аб'яву бачыў? — спытаў паліцыянт, паказваючы на платы. — Шукаюць буйнога злачынцу.

— Ужо ж гэта будзьце пэўныя, — сказаў Жукаў. — Ад нас не ўцячэ.

другім цяжкім вытненьнем. Ня зводзячы вачэй ляжаў ён на сене. З поўнай абыякавасьцю прыслухоўваўся да галасоў. Ні таварышаў па зброі, ні сямьі, ні блізкіх. Пустэча. Частка, ў якой ваяваў інжынер, была далёка, за сотні кіламетраў ад хутара.

Так прайходзіў дзень за днём.

Але паступова разам з жыцьцёвымі сіламі ўлівалася ў цела пылкая прага барацьбы. У адну зь бяссонных начэй, калі Сасноўскі абдумваў пляны помсты, мельнік, парушыўшы ўстаноўлены расклад, скрыпнуў засаўкай. Сасноўскі прысеў у вугле амбара, гатовы да скачка.



*Тут разьмяшчаўся гэбітс-камісарыят*

## НЕБЯСЬПЕЧНАЕ ДАРУЧЭНЬНЕ

У жніўні 1941 года пры наводцы пантоннага маста праз адну зь беларускіх рэчак вайсковы інжынер Роберт Сасноўскі быў цяжка кантужаны. Каля месяца ён праляжаў у фальварку, у амбары ў паляка-мельніка. Ваўкаваты барадач маўкліва даглядаў бездапаможнага капітана Чырвонай Арміі, пакуль да таго не вярнуліся зрок і слых.

Ад мельніка Сасноўскі даведаўся, што немцы ўжо гаспадарылі ў Кіеве. Яшчэ да кантузіі, у войску, Сасноўскі атрымаў паведамленьне пра налёты фашысц-кіх бамбавальнікаў на Кіеў і пра пагібель сямьі. Вестка, якую паведаміў мельнік, была для вайсковага інжынера

— Пан Роберт, гэта я, — сказаў мельнік.

Сьледам за мельнікам у праёме дзьвярэй паказалася фігура чалавека ў папасе, з прыкладам карабіна за плячыма.

— Камісар пан Радзецкі, — басавітым шэптам адрэкамендаваў зайшоўшага мельнік.

Праз гадзіну вайсковы інжынер пайшоў усьлед за Радзецкім у лес.

Радзецкі быў камісарам атрада "Іскра", які налічваў гады васемнаццаць штыхоў. Чатыры месяцы Сасноўскі вандраваў разам з атрадам па непралазных тванях. Атрад то ўхіляўся ад перасьледу карнікаў, то наносіў нечаканыя вытненьні там, дзе партызан ніяк не чакалі. У сакавіку 1942 года Радзецкі выклікаў да сябе Сасноў-скага: "Размова будзе асаблівая". У зямлянцы нікога не было. Чадна гарэла на стале газьніца — сплюснуты артылерыйскі снарад са ўстаўленым у яго кнотам.

[1] Гміны — створаныя акупантамі адміністрацыйныя раёны.

Камісар моўчкі ўглядваўся ў худы твар інжынера. Ён памятаў, як у першы вечар іх знаёмства, у амбары ў мельніка, Сасноўскі, яшчэ не здалеўшы адысьці ад усіх зваліўшыхся на яго бедаў, распавядаў:

— Я рыхтаваўся стаць будаўніком, разумееце? Хацеў будаваць гарады. Зубрыў, як пракляты, нямецкую, французскую, ангельскую. Хацелася ведаць, ведаць як мага болей! Навошта было ўсё гэта? І яшчэ — я быў шчасьлівы, разумееце? Жонцы было дзевятнаццаць гадоў... Вельмі прыгожая, вучылася на філалягічным, любіла вершы. Хадзілі ў філармонію, на канцэрты Рахліна, здараліся, спрачаліся... І мы былі шчасьлівыя, разумееце? А зараз — вайна, і нічога няма на сьвеце, акрамя вайны і гора.

У першых схопках Сасноўскі, як апантаны, рваўся ў бой. Яго даводзілася стрымліваць, каб зьберагчы ад бяздумнай пагібелі.

І вось — камісар гэта ясна адчуваў — у партызане нарадзілася разважлівая і мудрая жарсьць сапраўднага баяра.

— Ты даўно ў камсамоле, Роберт?

— З трыццаць шостага.

— Ну а я ў партыі шэсьць гадоў[1]. І больш чатырох гадоў на нелегальнай працы. Вось бачыш — зараз зноў “нелегальны”... — Радзецкі нявесяла ўсьміхнуўся. Устаў, надрыўна кашляючы, сутулы, немалады чалавек, стомлены нялёгкім партызанскім жыцьцём...

Яны гутарылі так, як быццам бы працягвалі пачатую размову — таму што нярэдка ў перапынках паміж баявымі аперацыямі камісар талкаваў з Робертам пра розныя справы.

— Да чаго я кажу пра нелегальную працу, Роберт... Нам трэба паслаць свайго чалавека ў Ліду, да немцаў, каб зьвязацца з падпольшчыкамі. Думаем паслаць цябе.

Роберт ішоў па вуліцах Ліды разам з доўгай чарадой сялян, што накіроўваліся на кірмаш. Ён нічым не выдзяляўся сярод сотняў іншых людзей у пашарпаных кажухах, шынялях, ватоўках, у самаробных, шытых з аўтамабільных камер галёшах, у лапцях — майстэрства пляценьня гэтага славутага вясковага “абутку” адрадзілася ў цяжкія ваенныя дні. Худыя коні павольна цягнулі за сабой вазы, дзе, прыкрытыя анучамі і сенам, ляжалі няхітрыя сялянскія тавары. Крамы горада былі пустыя, затое рынкавы гандаль набыў асаблівы размах — здавалася вярнуліся часы феадалізму зь іх натуральным абменам. Нямецкія грошы былі не ў цане, асьцярожныя гаспадарлівыя хутаранцы аддавалі перавагу простаму і надзейнаму натуральнаму абмену. За тры дзесяткі яёк — нарог, за парася — боты. За простую швейную іголку маглі аддаць і курыцу.

Яшчэ толькі паказаўся здалёк дзьвухпавярховы будынак гарадзкога паштамта, ля сьцен якога шумеў кірмаш, а найбольш прадпрыймальныя прадстаўнікі дастаслаўнага нямецкага войска ўжо сустракалі на дарозе цякучую зь вёсак плынь. Яны шнырылі па вазах, прапануючы ў абмен нарабаванае дабро.

Роберт не выпадкова выбраў для свайго візіту кірмашны дзень. Разам зь сялянамі ён спакойна абмінаючы заставы на шашы, дайшоў да цэнтра горада, да паштамта. Яшчэ за некалькі дзён да таго, як пакінуць лес, Роберт разам з Радзецкім дасканала вывучыў плян горада. Тое, што бачыў ён перад сабою сумяшчалася з малюнкамі апісанымі камісарам атрада. Вялікі, белы, у два паверхі дом, ахапіўшы крыламі сквер, — гэбітс-камісарыят, былая школа. Па скверу прагульваліся малойчыкі ў белых куртках і белых навыпуск портках — асабістая ахова гэбітс-камісара. Непадалёку ад гэбітс-камісарыята — шыбеніца са сьвежых немаляваных бярвеньняў — пра яе Радзецкі нічога не казаў. Відочна, “навінка”. Шыбеніца літарай “П” — велізарная перакладзіна на двух шулах.

Непадалёк ад касьцёла каля доўгага дашчатага плоту грамадзіліся людзі, чыталі аб’явы. Роберт падышоў, прабег вачыма рознакаляровыя аркушы. Колькі было гэтых аркушаў! Загады, указы, наказы, звароты, падпісаныя гэбітс-камісарам, камендантам паліцыі, шэфам жандармерыі, войтам лідзкай гміны, бургамістрам... І паўсюль мільгала адно нязьменнае, рэзкае, як воклік вартавога, слова, надрукаванае асаблівым, тлустым шрыфтам, — “verboten”, “забаронена”.

Людзі, што чыталі аб’явы, перамаўляліся ўпаўголаса:

— У Кашарах[2] учора зноў расстрэльвалі, а каго ня пішуць.

— Вядома каго. У палонных тыф, вось і вывозяць у Кашары.

— Сволачы!

— Цішэй.

— Сусед казаў, усю бальніцу душэўнахворых зьнішчылі. Разам зь лекарамі.

— А сусед адкуль ведае?

— Дачка ў яго працавала ў бальніцы.

Сасноўскі агледзеў людзей, што акалялі яго. Няголеныя, пацямнелыя мужчынскія твары, стомленыя вочы жанчын, застылыя ў нянавісьці, страсе. Тут ля дошкі з загадамі, нагадваўшымі пра кары, трапётка білася зразумелае яму, простае чалавечае жыцьцё. Нясьпешным крокам Роберт накіраваўся ў дэпо. Там над чырвоным цагляным будынкам дыміліся каміны кацельні. Поблізу дэпо, ведаў Роберт, знаходзілася рэзідэнцыя чыгуначнага шэфа Ліды.

[1] Радзецкі быў сябрам КПЗБ — Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

[2] Кашары — мясцовасьць пад Лідай, дзе фашысты ў першыя месяцы акупацыі горада расстралялі звыш сямі тысяч савецкіх ваеннапалонных і мясцовых жыхароў.

СТАНІСЛАЎ СУДНІК

# ЛІТВА

## УСТУП

Там, дзе Нёман ціха ўецца,
Дзе Тур'я, Уша і Шчара
Дзе з крыніц жыцьцё бярэцца,
Сілай поечы абшары,

Дзе азёры і балоты,
Дзе дубы — князі над лесам,
Дзе ёсьць сонца, ёсьць і слота,
Дзе маланка неба крэсіць.

Дзе гулялі на прывольлі
Зубр, і тур, і лось рагаты,
Жыў народ на вольнай волі,
Жыў свабодна і багата.

Летаў тысячу мо будзе,
Трохі болей, трохі меней,
Літвой звалі сябе людзі,
А людзей была ня жменя.

Племя моцнае між балтаў,
Плугам слаўнае і мечам,
І жмайтаў, і аўкштайтаў
Не раз клала ў грозных сечах.

Моцны шчыт на сваіх межах
Колькі помніцца трымала,
Хоць, мо што яму належыць
З тых абшараў, і ня знала.

І калі плыніскам бурным
З поўдня, з захаду славяне
Прынясьлі сюды віхуры,
Нібы выспа ў акіяне,

Непарушна край ліцьвінаў
Сустракаў усе навалы,
Лёс і поспех не пакінуў,
І лавіна абцякала.

Селі крывічы з усходу,
А дрыговічы забралі
Поўдзень, захад. Род за родам
Набягалі, абцякалі.

Хай такім пачатак будзе
Той гісторыі напетай
У вясёлым вольным гудзе
Сябрам верным, вешнім ветрам.



## ЧАСТКА 1

I

Між ліцьвінаў той парою
Быў славуты сваёй сілай
Думай мудраю сваёю
Страшнай грывішчаю сівай.

Князь Будрас, рукою цьвёрдай
Моцна племя ўсё трымаўшы,
Словам правіўшы і кордам,
Над людзьмі, як дуб, стаяўшы.

А найбольш славуты Будрас
Быў красуняю дачкою,
Больш разумнаю, чым Мудрасьць,
Прыгажэй Красы самое.

Кроў — свавольная крыніца,
Стан — танютная сасонка,
Слова — вострая суліца,
Вочы — бездані палонка,

Смеласьць прашчураў бруіцца,
Спрыт дрыкганта закіпае...
Ёй радзімая зямліца
Ўсё дала, усё, што мае.

Два сыны дубы-асілкі
Меней Будраса краналі,
Чым пагляд пралесак сіні,
Плынь — палон ільняных хваляў.

Вось такой была Алдона —
Радасьць князя і народа,
Галавы сівой карона,
Дыямент караляў рода.

II

Днём гарачым, днём спякотным,
Дазвалялі колькі ногі,
Шалам спуджаны сьмяротным
Вершнік мераўся з дарогай.

Даляцеўшы шатаў княжых,
Перасьмяглымі губамі
Ледзь-наледзьве шэпча-кажа:
"Слухай, Будрас, гора — з намі.

Цераз Злуч ізноў славяне
Паліліся плыньню грознай,
Смерць у вочы краю гляне,
Пасьпяшай, бо будзе позна..."

"Гэй! Сыны! Сядлайце коней,
Шчыт і меч, і больш нічога,
Слаць пад ногі лес і гоні,
Перакрыць з паўдня дарогу!

Я ж, сабраўшы раць імкліва,
Следам буду. Затрымайце
Хітра, спрытна, цярпліва,
Бой вялікі не ўшчынайце."

Завіхрыўся пыл дарогай
За адборнаю дружынай,
Пазіралі ўслед з трывогай
Што мужчына, што жанчына.

А ганцы паўз край імчацца,
Клічуць грозна да паходу,
Што ліцьвіну субірацца?
Да вайны гатоў ад роду.

III

Будрас хутка, Будрас спраўна
З рацьцю грознай за сабою
Пасьпяшае, сечы слаўнай
Ён жадае, прагне бою.

І Алдона тут. Натхненьне
Светлы воблік асяняе
Вось і Злуч, і ціш здзіўленьнем
Рацт ліцьвінаў сустракае.

Што за дзіва? Цуд ды годзе!
Дзе чужынцы? Дзе дружына?
Ці тут здані толькі ходзяць?
Ды гукае хтось з ліцьвінаў:

"Глянь направа, глянь жа, Будрас,
Глянь туды вунь на паляну,
Там нібы гуляла бура,
Нібы дрэвы паваляны".

Вой, не дрэвы там, не дрэвы,
Там ляжаць пластом дружыны,
Сьмерці страшныя пасевы
Там славяне і ліцьвіны.

Едзе Будрас па паляне,
Ён сыноў сваіх шукае,
Не відно, куды не гляне:
"Мо жывыя.." Ды ўзрывае

Крыкам ціш Алдона раптам,
На гары крывавых целаў
Нахілілася над братам,
Чэрап струшчаны сякерай.

А другі? Ён тут жа побач
Дзіда грудзі пранізала.
Што тут слёзы, што тут роспач,
Гэткіх сокалаў не стала.

А між імі рухнуў ніцма
Ад стралы чужой, славянскай
Воін. "Свой?" "Чужынец быццам"
Што тут сталася? Не ясна.

Ды, каму да тога справа,
Воін сьмерць знайшоў на полі
Ад сваіх хвала і слава,
Ад чужых нічога болей.

Таўкавіска — поле злое,
Сьмерць навечна ўсіх зьяднала
А жывыя пра другое
Дбаюць. Ім навукі мала.

Будзе трызна на ліцьвінах,
Будзе душам іх пашана,
А славян у яму ўкінуць
І засыплюць апантана.

Аддзяляючы ліцьвінаў
Ад славян хлапца сьцягнулі,
І раптоўна ён ускрыкнуў,
Мроі ў яве патанулі.

"Ён жывы, ён не загінуў,
Хай жыве", — Алдона кажа,
Рве стралу, хлапец уздрыгнуў
З раны кроў, нібыта сажа.

"Што ж, хай так, ахвярай будзе,
За маіх сыноў радзімых,
Бог дзе ты, і дзе вы людзі?
За што лёс мяне пакінуў?"

IV

Едзе думае князь Будрас,
Едзе думае Алдона,
Едзе дуб прыгнуты бурай
І сасна с пабітай кронай.

Едзе дзягай перацяты,
Да сядла прыцяты воін,
Ён увесь, як лук, напяты,
Ён увесь спакою повен.

На яго Алдона збоку
Ўкрадкам, ціха паглядае
І патроху косіць вока,
Як бы нешта вырашае.

А хлапчына статны, складны
Ці аблічам, ці паставай
Выраз твару мае ўладны,
З валасоў капой бялявай.

І не простага знаць роду,
Болей меч ад плуга знае,
І Алдона ўрэшце, згоды
Не спытаўшы, так пытае:

"Адкажы ты мне, хлапчына,
Што было на той паляне
Хто там біўся, ў чым прычына,
Дзе падзеліся славяне?"

З-пад ілба хлапчына глянуў,
Запытаньню задзівіўся,
Мову ён пачуў славянаў,
Нібы зноўку нарадзіўся:

"Размаўляць мне цяжкавата,
О, дзівосная дзяўчына,
Мы вялі за рэчку з братам
Слаўных віцязяў дружыны.

Я — сын князя Дабрагоста
І завуся Яраславам,
Прыязджай да нас у госьці,
Будзеш мець пашану, славу.

Ну дык слухай, нас сустрэлі
За ракой дружыны вашы,
Прагай бойкі ўсе гарэлі
І глынулі сьмерці чашы.

Я павёў у бой дружыну,
Секся сам і ўжо не бачыў,
Што Мсьцібой мяне пакінуў
Гэта — брат мой, трэ адзначыць.

Слаўна секліся, аддана,
Я не згледзеў як застаўся
Супраць воінаў двух слаўных...
Хто бой скончыў не пытайся.

Я зваліўся, як падцяты
Тупат чуў, чуў енкі, крыкі,
Мне пачуўся голас брата
І... жаночы лямант дзікі..."

V

Вось паселішча здалёку
Паказалася чужое,
Яраслаў чуць косіць вока,
Прыкмячае сёе-тое.

Вось пад'ехалі да хатаў,
Гвалт і лямант навакола,
Аж трасуцца дрэваў шаты
Там сабралася да кола

Люду шмат, мо род, мо болей,
Слова Будраса чакаюць.
Вырашэньнем божай волі
Будзе слова, людзі знаюць

"Класці вогнішча святое
Трызна заўтра зраньня будзе."
Змоўк і ў велічным спакоі,
Зьнік у двор, хай бачаць людзі,

Сілы ў князя дастаткова,
Утрымае меч і лейцы,
Не пацерпіць ён размоваў,
Не яму хадзіць улегцы.

Яраслава ж падхапіўшы
Хутка ў ямішчу гнілую
Запіхнулі ў путы зьвіўшы,
Хай тут ноч сваю начуе.

VI

Ноч як бездань. Месяц зрэдку
Паміж хмараў праглядае
Добра цёмна... Нехта жэрдку
Ціха ў яму апускае.

Яраслаў прыціх, чакае.
Лезе хтосьці... Цуд. Дзяўчына.
Рукі мечам разразае:
"Уцякай адсюль хлапчына.

Веру я, што ты не вінен,
Хоць з братамі ты і біўся,
Я хачу, ты жыць павінен,
Хоць чужым ты нарадзіўся.

Там ля лесу конь пасецца,
Вецер ён пераганяе,
Як усё тут ператрэцца,
Госьцем я цябе чакаю."

Яраслаў чакаў не доўга,
З сілай дзеўчыну прыціснуў
І да лесу. Конь. Дарога.
Толькі вецер недзе сьвіснуў.

Цераз колькі дзён дарогі
На двор князя Дабрагоста
Ледзь ступаючы на ногі
Конь прынёс здалёку госця.

Выйшаў князь цяжкой хадою
Вочы трэ... Каго забітым
Лічыць край са слоў Мсьцібоя,
Тут. Жывы. З канём здабытым.

## ЧАСТКА 2

I

Час бяжыць хутчэй за тура,
З год мінула не іначай,
Не адна змаглася бура,
Сьвет ня змогшы перайначыць.

На ліхое паляваньне
Дабрагост з раднёй зьбіраўся,
На адной лясной паляне
Зубар часта красаваўся.

Едзе князь, за ім дружына,
Прагнуць бою і пацехі,
Хоць і знаюць, што магчыма
Абарваць там на арэхі.

Абхапілі ўраз паляну,
Дабрагост з-пад шатаў рвецца,
Аж сумеўся. Зь веліканаў
Велікан стары пасецца.

Дзіда ўскінута высока,
Шкуру ніжа пад лапаткай,
Ды ня вельмі і глыбока,
Між касцей прайшла ня гладка.

Рэў прарэзаў наваколле,
Рог маланка мільгатнула.
Князь не зведаў нават болю,
Сонца ў цемры патанула.

II

Перад борам запаветным,
Дзе Пярун, Стрыбог і Велес
Страшаць змрокам беспрасьветным,
Дзе праз край разросься верас.

Раньнем дроў гара ўзьнялася,
І з паселішча да лесу
Люду рэчка палілася,
Цела князя ў цэнтры несьлі.

Перад ім — старыя роды,
Ззаду — жонка, сыноў двое,
Іншых родзічаў чароды,
Хто бяззбройны, хто пры зброі.

Волхвы іх даўно чакалі,
Цела князя падхапіўшы
Зверху вогнішча паклалі,
З коней лепшага зваліўшы

Да бярвенняў прывязалі.
Княжы шчыт, і меч, і дзіду
Побач з ім у рад паклалі.
Потым кожны дар свой кідаў.

Схамянуцца не пасьпелі,
Як старая Гарыслава,
Дзе ўзялася сіла ў целе,
Спамянуўшы дзедаў права,



Па бярвеньнях, па бярвеньнях.
І ля князя, і ля мужа
Ўпала моўчкі на калені,
А дым гадам, а дым вужам

Выпаўзаў. З агнём паходню
Волхв прынёс з трушчобы лесу
Сам Пярун, старыя помняць,
Той агонь з нябёсаў крэсіў.

Зырка полымя ўзьнялося,
У дуду бы задудзеда,
Праз гадзіну дзесь змаглося
Прыабмякла і асела.

А, калі ўсё дагарэла,
Дым іскрысты растрапаўся,
Хто спакойна, хто нясьмела
За рыдлёўкі род узяўся.

Каб бліжэй было да Бога,
Гору ўзнеслі не малую
І вакол кургана тога
Трызну справілі сьвятую.

III

Яраслаў увесь час гэты,
Як апушчаны пад воду,
А Мсцібой, як перагрэты,
Ак бы зведваў асалоду.

Зналі ўсе, што заўтра рада,
Што старэйшыны сівыя
Разьвядуць свае нарады
Князя выбраць. Як старыя

Скажуць пэўна так і будзе,
Ды сыноў у князя двое,
Яраслава любяць людзі,
Першародства ж — у Мсьцібоя.

Дзень сышоў за лесу грэбень,
Сонца ранкам зноўку ўстала,
Разарвала ночы цемень.
Спраў на сёньня ўсім хапала.

Дзень пачаўся з гвалту, крыку,
То Мсьцібой сваю дружыну
З раньня самага паклікаў,
Знаць на тое меў прычыну.

Тут усе, што зь ім хадзілі
На Літву ў мінулым годзе,
Што за золата служылі
І пры доме, і ў паходзе.

Яраслаў убачыў тое
І сваіў гукнуў буй-тураў,
Ды не ўсталі тыя воі,
Што ў смяртэльных зьніклі бурах.

Маладых дзесяткаў колькі
Выйшла воінаў па клічу,
Вой не вытрымаць ім бойкі
З той дружынай, што не злічыш

Рада скончана. На веча
Клічуць люд дзяды сівыя
"Вой здаецца будзе сеча"
"Хай Даждзьбог ратуе, крые"

З двух бакоў на ўскрайку пляцу —
Два браты і дзве дружыны
Люд патроху субірацца
Пачынае. Спрэс мужчыны.

IV

Вось дзяды прыйшлі да люду
На пагорак падняліся.
Род чакае іх прысуду,
Нібы лукі напяліся.

"Князям быці Яраславу!" —
Да натоўпу даляцела.
"Па якому гэта праву?" —
Закрычаў Мсьцібой і сьмела

Пагарджаючы народам
Разарваў натоўп дружынай:
"Буду князем я над родам,
А не гэты вось хлапчына."

З двух бакоў, як абцугамі,
Абхапілі Яраслава,
Загучала пад сьцягамі,
Прага ўлады, прага славы.

І мячоў дзесяткі, сотні
Падняліся, зноў упалі.
Сеча. Бітва. Неба стогне,
Калывае лёсу шалі.

Нібы тур між воўчай зграі —
Кожны воін Яраслава,
Ды ўсё ж тураў убывае
Ды ўсё ж падаюць у травы.

Яраслаў, бы зубр, кідаўся,
Сек налева і направа,
Да Мсьцібоя прарываўся,
Шлях ладуючы крывавы.

Змог убачыць — гінуць людзі,
Гіне моц і гонар краю.
"Будзем жыць — усё ў нас будзе"
Да сябе сяброў сцягае.

Як таран, пайшла дружына,
Рве навылет злыдняў кола,
Бракне часу для кручыны,
Трэба воля — будзе воля.

V

Яраслаў, з ім тры дзесяткі
Хлопцаў сьмелых і адданых
Дзень ляцелі без агляндкі,
Коней гналі апантана.

Не было пагоні болей,
Не было да дому ходу,
Коні ўдаль ідуць паволі
Па нязнаныя прыгоды.

Змрок і ноч. Атрад спыніўся,
Патрабуе справа рады,
Ды не вельмі хто хіліўся
Выдаць слушныя парады.

Яраслаў прамоўвіў гэтак:
"Шлях да дому нам закрыты,
Мы не маем жонак, дзетак,
Што зь зямлёй, што зь небам — квіты.

Меч для нас сярпом і плугам
Стаў даўно і назаўсёды,
Што ж як, дома стала туга:
Шлях у госці. Згода?" "Згода."

VI

Дні бягуць, бяжыць дарога,
Землі ўжо пайшлі чужыя,
Кожны міг расьце трывога,
Што рыхтуюць далі тыя.

Яраслаў знаёмым шляхам
Да паселішча ліцьвінаў
Сам ідзе. Пад лесу дахам
Прытаілася дружына.

Вечар крые далі змрокам,
Пачынае крэсіць зоры,
Яраслаў бязгучным крокам
Па кустах і па разорах

Падабраўся да будынін,
Дзе калісь сядзеў у яме,
Тут рашыў чакаць дзяўчыны.
І нарэшце ў жоўтай пляме

Ад дзвярэй мільгнула хмаркай
Постаць лёгкая... Алдона...
У іскрыстай сукні яркай,
У вяночку залачоным.

Час настаў. Як рысь, сабраўся,
Міг, скачок, рукою дужай
Рот заціснуў і схаваўся
Ў змрок з украдзенаю ружай.

Шэпча хутка: "Супакойся,
Не крычы, ня трэба пуду,
Лепш прыглядзься і ня бойся
Век табе я ўдзячным буду.

Ты прабач, не мог іначай,
Мне твае парады трэба,
Долі шмат зазнаў лядачай,
Смак ужо забыўся хлеба."

Адпусьціў. Яна пазнала
Ў ім палоньніка былога.
Шчэ сярдзіта адказала:
"Ну і розум, што ў малога.

Што б было, каб ты сарваўся,
Каб я крыкнуць усё ж пасьпела,
Па кавалках бы валяўся,
Даць ратунку б не здалела

Ну ды што ж, забудзем гэта,
Раскажы мне лепш пра тое,
Ці занесены к нам ветрам,
Ці наўмысня? Хто з табою?"

І наводдаль, на паляне,
Ля паселішча ліцьвінаў,
Пра прыгоды і бадзяньні
Доўга слухала дзяўчына.

"Рада я табе бязь меры,
Што прыйсьці ты не спужаўся,
Што ліцьвінцы, мне паверыў,
Я хачу, каб ты застаўся."

"Хочаш ты, і я жадаю,
Адпачыць ня лішнім будзе,
Ды ці прыме князь да краю,
Ды ці прымуць вашы людзі?"

"Гэта ўжо — мая турбота.
Будрас войска субірае
На аўкштайтаў. Тут работа,
Тут і слава вас чакае.

Заўтра будзь бязь лішняй сьпешкі
Там, дзе ліжа лес дарога,
Я ж пайду пратоптваць сьцежкі
К сэрцу Будраса старога."

VII

Князь вячэраў і Алдона,
Увайшоўшы непрыкметна
Так спатолі, пра законы
Зачынае, чым адметна

У іх Літва, хай ад суседзяў,
Як гасьцей прымаць павінна,
Будрас хітрасьці ня згледзеў,
Сказ павёў паволі, чынна.

"Што ж паслухай пра законы:
Госьця ў дом пусці заўсёды,
Будзь ён пешы, будзь ён конны,
Будзь свайго, чужога роду.

Хай у бітвах спатыкаўся,
Перш за ўсё прымі сардэчна,
Пра здароўе запытайся,
Госьцю жыць жадаюць вечна.

І чакай пакуль не скажа,
Хто, адкуль ён і навошта,
Не сьпяшайся, словаў пражу
Суча госць хай, меншым коштам

Будзеш мець усе навіны
Пра падзеі ў сьвеце цэлым,
Што, калі рабіць павінна,
Быць гасьцінным трэба ўмела.

Не зважай: ён — свой, чужынец,
Адпусьці дамоў з пашанай,
На дарогу дай гасьцінец,
Будзеш так жа сам спатканы."

"Дзякуй, бацька" — і павольна
Адышла сабе дзяўчына,
Вочы бліснулі свавольна,
Значыць ёсць таму прычына.

VIII

А назаўтра тлум пудлівы
Над паселішчам узьняўся,
З поўдня грозна і маўкліва
Даўні вораг прыбліжаўся.

Хто да лука, хто да меча
Пахапаліся ліцьвіны,
Ды не будзе мусіць сечы,
Бо наперадзе дзяўчына.

"Там Алдона", — ледзь пазналі
І спыніліся ў зьдзіўленьні,
А славяне пад'язджалі
Хто ж тут прыме вырашэньне?

"Добрай раніцы", — свавольна,
Не чакаўшы запытаньня,
Кажа дзеўчына, — "па вольнай
Волі з мірам тут славяне.

Разыходзьцеся дадому,
Бацька сам прымаць іх будзе..."
І падумала: "Старому
Сёньня клопатаў прыбудзе."

Грукат. З вуліцы дружына
Ўслед за Будрасам імчыцца,
І тут смелая дзяўчына,
Не жадаючы схіліцца.

Заступае ўсім дарогу:
"Ціха, бацька не спяшайся.
Непатрэбная трывога.
Лепш з гасьцямі павітайся.

І прымі так, як учора
Мне расказваў да паўночы,
Хто парушыць звычай, гора
Не раз гляне тому ў вочы."

І спынілася дружына,
Саступаючы дарогу,
Князь гасьцей вітае чынна
І палонніка былога

Пазнае. "Цяпер я знаю,
Як ты ўцёк, па што вярнуўся."
На Алдону паглядае:
"Ну чакай жа, дабяруся,

Будзеш знаць, як дурня строіць
З бацькі роднага і князя,
Ды мяне закон няволіць
І мацней вяроўкі вяжа."

IX

Князь у цераме з гасьцямі,
Ціха вяжацца размова,
Госьці больш гавораць самі,
Князь прамовіў два-тры словы.

Яраслаў апавядае
Пра жыцьцё свё, бадзяньні,
Будрас тут жа адзначае
Шмат адказаў на пытаньні.

"Вось і ўсё, нам зараз шляху,
Як па-праўдзе,то нікуды,
Просім князь у вас мы даху,
А пра ўдзячнасьць не забуду.

Чуў, што з поўначы аўкштайты
Пашукаць імкнуцца славы,
Мы ў тваіх радах упарта
Будзем біцца і на славу.

Дык вазьмі нас у дружыну,
Будзе добра ўсім ад тога."
"Што ж, — прамовіў князь, — прычыну
Маю я, каб сёньня злога

Не чакаць ад вас славяне,
Ані слова, што ж жывіце,
Ці ў баі, ці паляваньнем
Гонар, славу заслужыце."

Гэдак ворагі былыя
Сталі вернаю дружынай.
Што ня зробяць ўсе сьвятыя,
Зробіць пекная дзяўчына.

## ЧАСТКА 3

I

З год прайшло ад той часіны,
Як свае ў Літве славяне,
Найвярнейшае дружыны
За сабой трымаюць званьне.

Падрастаюць духам, лікам,
Будрас тому патурае,
Яраслаў сюды паклікаў
Многа тых, што выбірае

Шлях бясконцых вандраваньняў,
Войнаў шлях і сьмерць у сечы
Між пакоры, і маўчаньня,
І жыцьця ўвагнуўшы плечы.

А Мсьцібой, забраўшы ўладу,
Люд прыціснуў, што стагналі,
У жыцьці забракла ладу,
Яраслава ўспаміналі.

І ішлі. На тую пору
Яраслаў дзесяткаў дваццаць
За сабою вёў і гора
Мог ня знаць і не баяцца.

II

Яраславу лёс шчасьлівы
Памагаў у справах многіх,
На чужбіне шмат зласьлівых
Меў зайздросьнікаў. Трывогі

Ён аднак няя знаў, ня ведаў,
Ня меў лішніх хваляваньняў,
Ня чуў цяжкасьцяў і бедаў,
Чуў і знаў адно каханьне.

Кветкай кволай, палахлівай
Расьцьвіло ў грудзях хлапечых,
Кветкай чыстай і цнатлівай,
Што, бы полымя, трапеча

На вятрах падзей жыцьцёвых,
Ды схаванае глыбока
Не пагасьне, з сілай новай
Узарвецца пад аблокі.

А Алдона? Што ж дзяўчына
Толькі гэтага чакала,
Шчэ палоннага хлапчыну,
Шчэ варога пакахала.

Пакахала нечакана,
Ды навечна, назаўсёды,
Хоць тады сваёй заганай
Мела ўсё, ды толькі годы

Усё зьмянілі і зламалі
І шчасьліваю парою
Ўжо даўно не існавалі
Ў марах розна. Між сабою

Цьвёрда мелі вырашэньне
Перад Будрасам схіліцца,
Як ні будзе, а зьдзяйсненьня
Мар сваіх усё ж дабіцца.

І зрабілі. Князь маўчаньнем
Стрэў турботныя навіны,
Час узяў на разважаньне,
У чаканьні ўсіх пакінуў.

III

Год ужо паветра пахла
Дымам, кроўю і вайною,
Год ужо ліцьвінам бракла
Шчасця, ладу і спакою.

Князь аўкштайцкі Сьвідрыгайла
Цераз Нёман рваўся ўпарта,
Ад Літвы паўсюль стаяла,
Пільнавала яго варта.

І, калі чужых дружынаў
Стала яўным прыбліжэньне
Без каманды край ліцьвінаў
Стаў увесь адным імкненьнем.

Будрас слаўныя дружыны,
Што даўно жадалі бою,
Сам павёў і ўсю краіну
Ўзрушыў разам за сабою.

З войскам мужным і вялікім
Будрас там, дзе Нёман хвалі
Нёс наперад, нёс бязь ліку,
А яго ўжо тут чакалі.

На шырокай, на паляне,
Над вялікаю ракою
Сталі ворагі ў чаканьні
З прагай славы, з прагай бою.

IV

Як сьцяна, стаяць аўкштайты,
Як сьцяна, стаяць ліцьвіны,
Час настаў закончыць жарты
Час адпомсьціць за Айчыну.

Сьвідрыгайла — певень чысты,
Сам наперадзе з дружынай,
Будрас сталы і ўрачысты —
Між радоў сваіх ліцьвінаў.

Загучалі трубы звонка,
Дзьве сьцяны наперад рвуцца,
Засьпявалі стрэлы тонка,
Міг і раці сутыкнуцца.

А няма паміж ліцьвінаў
Славаў сьмелых і адданых,
Яраслава дружына
Адвярнула нечакана,

Зьнікла ў лесе. Бой пачаўся,
Глеба, неба задрыжалі,
Лес наўкольны захістаўся,
Забурлілі Нёмна хвалі.

Сьвідрыгайла ўперад рвецца,
Нікнуць пешыя ліцьвіны,
Адыходзяць і здаецца
Лёс ім здрадзіў і пакінуў.

Хвіля шчэ і ўжо сячэцца
Будрас сам, ды цісьне душыць
Сьвідрыгайла і ўдаецца
Ўсё глыбей. Расколе мусіць,

Ды не вельмі. Затрымаўся.
Напаўкруг вакол ліцьвіны,
Цісмуць цісне, ды звязаўся
Так, што сьмерць хіба раздыме

Адступаюць зноў ліцьвіны,
Ды здалёк ражок азваўся,
Яраслаў, за ім дружына,
У тыл аўкштайтам вырываўся.

Шолам сталі варанёнай,
Як маланкі, корды блішчуць,
Нібы сонца, шчыт чырвоны,
Як сініцы, стрэлы сьвішчуць.

Як віхор, паміж варогаў
Кружыць, нішчыць і валяе,
Зь цел крывавую дарогу
За сабою пакідае.

І раскіданы аўкштайты,
Сьвідрыгайла вужам уецца
Агрызаецца, упарта
Яраслаў да князя рвецца.

V

Наляцеў. Адразу кола
Разьмялі, зарвала бойку,
Нібы вымерла наўкола,
Між ліцьвінаў нехта войкнуў

Быў вядомы Сьвідрыгайла,
Як выдатны, воін сьмелы,
Ды ўсё гэта не ўтрымала
Яраслава. Князь умела

Дзіду выбіўшы ў ворага
На мячах прымусіў біцца
І пайшло. Адно трывога
На вачах дружын іскрыцца.

Што ні цёс, то толькі грукат
Ад шчытоў ідзе наўкола,
Што ні міг, то толькі тупат,
Капыты дратуюць поле.

Шчыт і меч. Узмах, і пер'е
Разляцелася на волю
Шолам вытрымаў, ды вее
Сьмерцю хуткаю па полю.

Шчыт, і меч, і цёс з адмаху,
Меч зазубраны. Нічога.
Наўскасяк з пляча па паху
Раздваіў. Далоў, трывога.

VI

Як мяцеліца, ліцьвіны
На ворага наляцелі
Бой канчаюць. Раптам скінуў
Будрас голаў. Стрыжань ў целе

Ўсе разгледзелі. Здымаюць
І кладуць на славы поле,
Грудзі з цяжкасцю ўздымаюць
Груз сьмяртэльна вострьы болю.

Князь маўчыць. Над ім Алдона,
Што з дружынай Ярaслава,
Зноў пазьбегшы забароны,
Разам секлася, на славу.

"Бацька, бацька, адгукніся,
Вораг зьнішчаны, разьбіты,
Ачуняй, прашу, прачніся..."
Рве стралу, крывёй заліты.

Войкнуў князь, расплюшчыў вочы,
Бы ў зьдзіўленьні пазірае,
Вось прамовіць нешта хоча,
Да сябе людзей склікае.



Цяжка кажа "Вам ліцьвіны
Трэба слухаць мяне ўважна,
Бо ўсё выканаць павінны,
Што скажу. Надзвычай важна.

Мець вам князя ды ўдалога,
Каб быў смелы, справядлівы,
Быў уважны да старога,
Каб быў добры, незласьлівы.

Я скажу вам тое, людзі,
Меў на гэта сын мой права,
А цяпер, мо дзіўным будзе,
Ды быць князем Яраславу.

Ад сягоньня і да веку
Я яму Літву ўручаю,
Над законам няма зьдзеку,
Бо Алдону ён кахае.

А таму, ці патрываю,
Ці памру, хай кожны знае,
Мужам, жонкай аб'яўляю,
Хай іх крые моц сьвятая."

І заціх, і змоўк, ні крыкі,
Ані слёзы — не падмога,
Шлях жыцця прайшоў вялікі,
І закончыў проста, строга.

VII

Быў заўсёды князь з народам,
Там яго і пахавалі,
Паміж вояў свайго роду
Князя Будраса паклалі

Так, як жыў, так і застаўся
Ён між вояў у кургане,
Князем быў, ня толькі зваўся,
Хто ж яго нашчадкам стане?

Што ж. Ліцьвіны не чакалі
Вось такога запавету,
Ды усе ж князя шанавалі,
І Алдона разам з гэтым

Неразлучна з Яраславам.
І згадзіліся, змаўчалі,
Сілы поўныя і славы
Раці з поля адпраўлялі.

Яраслаў вядзе дружыну
На шчыты падняўшы славу,
Прыгажэйшую дзяўчыну,
Абдымаючы па праву.

Шчасьце ёсьць у княжым званьні
Шчасьце ёсьць у ратнай сіле,
Ды найбольш яго ў каханьні,
Усё яно ў паглядзе мілай.

VIII

Вестка ўецца па дарогах,
А насустрач ёй другая,
Аб вайне і аб варогах
Кожны гук апавядае.

Зноў з паўдня пайшла навала,
Зноўку меч на волю пушчан,
Зноў Мсьцібою цесна стала
Між яго бясконцых пушчаў.

Яраслаў усе атрады,
На адной сабраў паляне:
"Што ж, сябры, ня ўсе тут рады,
Што нашу я князя званьне.

Зразумець аднак павінны —
Вораг нам Мсьцібой агульны,
І славяне, і ліцьвіны
Біцца мусяць. Хай жа ўтульнай

Будзе тут яму магіла,
Ды даверу я жадаю,
А таму нікому сілай
Стаць пад сьцяг не загадаю.

Хто мне верыць і жадае
За край родны заступіцца
Выйсці ўперад! Даждзьбог знае,
Не хачу я з братам біцца,

Ды ўсё ж мушу." І славяне,
А за імі і ліцьвіны
Конна ўсе, на той паляне
Шыхт наладзілі адзіны.

IX

Вораг стрэўся нечакана,
На яго найшлі дружыны,
Дзе шырокая паляна
Прадзіралася лагчынай.

Хоць чакалі ўсе сустрэчы
Сталі быццам ў здзіўленьні.
Атрымалася дарэчы,
Яраслаў адным імгненьнем

Распазнаў паміж славянаў
Шмат каго і перш Мсьцібоя,
Што ірваўся апантана
Да яго, жадаўшы бою.

Конь, што вецер, меч — маланка,
Яраслаў сустрэў ворага —
Брата роднага. Гулянка
Пачалася. Нежывога

Панясуць адсюль кагосьці,
Іскры сыплюцца да долу
І шчыты трашчаць і косьці,
Коні кружацца па колу.

Ды ўсё ж князя Яраслава
Не дарэмна ўжо лічылі
Лепшым воінам. Управа
Меч адбіты і застылі

Усе рады. Узмах кароткі,
Над кальчугаю Мсьцібоя
Кроў струменем. Міг салодкі,
Не патрэбна болей бою.

З двух бакоў вітаюць князя,
Б'юць паклон яму славяне,
Бой такі каго не ўразіў?
Два народы на паляне.

Два народы, а над імі —
Князь адзін. Як далей будзе?
Між дружынамі сваімі —
Яраслаў. Чакаюць людзі.

"Ну дык слухайце! Ад сёньня
І да самага да веку,
Хай усе нашчадкі помняць,
Я між вамі болей рэкаў

І мяжы другой не знаю.
Край мой родны і ліцьвінаў
Пад сваю руку прымаю,
І таму адной краінай

Мусім быць, адным народам,
Кожны хай жыве, дзе хоча,
Хай жа родніцца род з родам
Хай не бачаць войнаў вочы."

X

Гуд ад музыкі над краем,
Разьлятаецца наўкольле
Там вясельле князь гуляе,
Жнуць народы мір і волю.

На пачэсным, на пасадзе —
Князь з княгіняй маладою,
Да сябе пабліжай садзіць
Тых, хто зь сівай барадою.

Тут славяне і ліцьвіны
Піва п'юць і мёд іскрысты
І расказваюць навіны
І братаюцца ўрачыста.

Ну вясельле пачалося,
Мусіць скончыцца ня скора,
Бо ўжо гэдак павялося,
Шчасьце — гуртам, гуртам — гора.

Паўдружыны Яраслава
На Літве, куды ж падзецца,
Знайшло гонар, знайшло славу
І навек згубіла сэрца.

Так пачатак палажылі
Двух народаў аб'яднаньню
Так і старасьці спажылі
Ў міры, шчасьці і каханьні.

## ЗАВЯРШЭНЬНЕ

Год за годам, як каралі,
Прамільгнулі неразрыўна,
Людзі сеялі, і жалі,
І змагаліся надрыўна.

Навокал Літвы ўставалі
Гарады ў жалезнай сіле,
Там дзяржавы расьцвіталі,
Расхіналі славы крыльле.

Полацк — вольны, непакорны,
Непахісна старадаўні,
Тураў — між балотаў чорных,
Між лясоў глухіх, бяскрайніх.

Там жыццё бруіла, зьзяла,
Кожнай граняю іграла,
А Літва спаволь, памалу
З пушчаў гоні абжывала.

Мовы розныя гучалі,
І не шкодзіла нікому,
І сумесна спажывалі
Часам хлеб, падчас салому.

І дрыговічы-славяне
Ў пушчы глыбей пранікалі
Лес валілі і паляны
Дружна спраўна засявалі.

Разам, пільна, неадступна
Волхвы ў новы край спяшалі,
Без затрымкі, спраўна, рупна
Пяруна на трон саджалі.

Бог з даўжэннымі вусамі
Быў ліцьвінамі прыняты,
Разам з іхнімі багамі
Падпіраў нябёсаў шаты.

З часам стаў галоўным богам
І не толькі для ліцьвінаў,
Між аўкштайтаў, хоць варогаў,
Вусы ён свае раскінуў.

Ля паселішча ліцьвінаў,
Князь дзе меў сваю сталіцу,
Разам з княжаю дружынай
Многа хто пачаў сяліцца.

А, каб іх не захапілі
Злыдні ўсякія знянацку,
Тын вакол загарадзілі
З бёрнаў вострых. Нібы цацка

Горад быў. І не шукалі
Назвы нейкай незвычайнай,
Гарадком наўкола звалі
Месца між лясоў бяскрайніх.

* * *

Пройдуць годы і ліцьвіны
Між славянаў пературцца,
Ды, пры тым аднак, не зьгінуць,
Назвай, імем застануцца,

Застануцца сілай моцнай,
Застануцца воляй вольнай,
Непакорнасьцю бясконцай,
Непадлегласьцю раздольнай.

Вольны горад, Новы горад
Прызаве ў князі ліцьвіна,
І Міндоўг — праўнук Алдоны
Павядзе яго дружыны.

І расступіцца сьвет белы
Перад новаю краінай,
І спазнае мужных, смелых,
І спазнае моц ліцьвінаў.

Ў цемру пушчаў і балотаў
Рушаць шчыльнымі шыхтамі,
Бліснуць корды пазалотай
Пад чырвонымі сьцягамі.

І паклоняцца аўкштайты,
І ў ліцьвінаў край ўвальюцца,
І пакорацца жмайты,
І Літвою назавуцца.

І славянскія дзяржавы
Пад славянскаю Літвою
Уваскрэснуць, акрыяюць
І ўмацуюць край сабою.

І вялікаю краінай
Стане край той на стагодзьдзі
Край славянскі, край ліцьвінаў,
Ды спыніцца трэба. Годзе

Больш пісаць. Аднак жадаю
Ўсё ж сказаць, няхай пачую
Дзе "Літва" і ўжо ўяўляю
Край радзімы, зямлю тую.

Дзе мой Нёман ціха ўецца,
Дзе Тур'я, Уша і Шчара,
Дзе ў крыніцах воля льецца,
Дзе шуміць вятрамі мара.

*22. 02. 79 г.*



# Лідзкі замак. Сучасны выгляд

Здымак Міхася БУРАЧЭЎСКАГА